—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
14
ЖНІЎНЯ
1992 г.
№ 33 (3651)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭЛІТА: ТЫПЫ ЯК АНТЫТЫПЫ



Чаго нам бракуе і што замінае нам вызнавацца беларусамі.

Старонкі 5, 12

## РЭАЛЬНАСЦЬ І МІФЫ

Павел ДЗЮБАЙЛА пра сённяшні стан літаратуразнаўства.

Старонкі 6—7

## ВІЦЕБСКІЯ СНЫ



Шагалаўскія дні на радзіме Мастака.

Старонкі 13—14

## ДВОЙЧЫ ВЫЗВАЛЕНЫ ДЗЁННІК

Сяргей ГРАХОЎСКІ: «Не верылася, як ацалеў Барысаў дзённік. Я ж у 1937 годзе бачыў, як у двары «амерыканкі» ў спецыяльнай печы спальвалі кіпы рукапісаў, здымкаў, лістоў, самых розных папер і кніг. Да дзённіка Мікуліча, відаць, не дайшла чарга».

Старонкі 14—15

## АДКРЫТАЯ КНІГА РАСЛІН



Падарожжа ў свет зёлак і красак.

Старонка 16



Паэт паміж зямлёю і небам. Так, мабыць, можна вызначыць тэму новага твора скульптара Валяр'яна Янушкевіча, прысвечанага адной із самых трагічных і загадкавых постацяў беларускай культуры—Адаму Міцкевічу. Паміж зверам і анёлам, паміж жорсткай рэчаіснасцю і недасягальным рамантычным ідэалам. Падвоеная свядомасць, калі творчасць—па адных крытэрыях, а жыццёвыя ўчынкі—па другіх; усведамленне, што для рэалізацыі мэты, якая нібыта ад Бога, скарыстоўваюцца сродкі відавочна ад д'ябла—ці не яно было прычынай неспакою, хваробы і, зрэшты, смерці паэта?..

Зразумець Адама Міцкевіча—значыць асэнсаваць цэлую эпоху ў культурна-палітычных дачыненнях Беларусі і Польшчы, убачыць, як выкрышталізоўвалася беларуская ідэя.

Гэты твор беларускага скульптара Станіслаў Шушкевіч падарыў прэзідэнту Леху Валенсе падчас нядаўняга візіту ў Польшчу.

**В. БОГУШ.**

# Кола Дзён

На мінулым тыдні бягучы высакосны год сцвердзіў свой характар года неспадзяванасцяў і хвароб. Ці спадзяваўся, напрыклад, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, што ў пятніцу 7 жніўня будзе шпіталізаваны пасля парэзу ржавым цвіком на ўласным лецішчы (якое меўся самахоць дабудаваць падчас адпачынку)? Ці спадзяваліся вядучая тэлепраграмы навін «НІКа» М. Бабкіна і яе калегі па эфіру, што першая будзе адхілена ад эфіру, а сам калектыў рэарганізуецца?

Гэтаксама не спадзяваліся і ўсе мы, што на тыдні тэмпература паветра будзе расці, дасягаючы 35—36 градусаў. Працягвалі гарэць лясы і тарфянікі, не перапыняла работу пажарная служба рэспублікі. А Месяц на мінулым тыдні шпарка «старэў», набіраў шчочкі. Хто ведае, можа, пасля поўні прырода супакоіцца, а разам з гэтым надыдзе палёгка і нам?

**6 ЖНІЎНЯ**

Адбылося нечарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якім прынята Заява ў сувязі з падпісаннем пагаднення паміж Расійскай Федэрацыяй і Украінай аб прынцыпах фарміравання ВМФ Расіі і ВМФ Украіны на базе Чарнаморскага флоту былога СССР. У Заяве падкрэслена, што асобныя палажэнні пагаднення супярэчаць дакументам, прынятым у рамках СНД. Як пракаментаваў заяву С. Шушкевіч, «мы не прэтэндуем на Чарнаморскі флот, але лічым, што неабходна знайсці маёмаснае вырашэнне гэтага пытання, паколькі і наша доля, і доля іншых дзяржаў—краін СНД у стварэнні і аснашчэнні гэтага і іншых флатоў ёсць».

**7 ЖНІЎНЯ**

Беларускія весляры на каноэ Дзмітрый Даўгалёў з Мінска і Аляксандр Масейкаў з Магілёва сталі залатымі прызёрамі Алімпіяды ў Барселоне, выйграўшы заезд у лодцы-двойцы на дыстанцыі 500 метраў.

Як паведаміла праграма навін РТР «Вести», прадстаўнікі кіруючых органаў Украінскае Народнае Рэспублікі, што ўвесь гэты час функцыянавалі ў эміграцыі, заявілі аб прыпыненні сваёй дзейнасці з 24 жніўня. Падставай такога рашэння названа дасягненне Украінай праўдзівай незалежнасці.

**8 ЖНІЎНЯ**

Не быў адкрыты, як намячалася, летне-асенні паляўнічы сезон. Кіраўніцтвам Дзяржкамэкалогіі і Міністэрства лясной гаспадаркі забаронена адкрыццё новага сезона ў сувязі са складанай пажарнай абстаноўкай у лясах і на тарфяніках.

Адбылося пасяджэнне Сойма БНФ «Адраджэнне». Сойм ацаніў рэарганізацыю тэлепраграмы «НІКа» як наменклатурны наступ на дэмакратычныя сродкі масавай інфармацыі і галоснасць, вынік імкнення Савета Міністраў манапалізаваць СМІ перад рэферэндумам. У пастанове Сойма заяўлена аб неабходнасці «дзяржаўнай дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі».

**9 ЖНІЎНЯ**

У пасёлку Энергетык, што паблізу Койданава, пачаўся трэці па ліку сезон беларускага дзіцячага летніка «Грунвальд», які ладзіцца гарадскім бацькоўскім камітэтам беларускамоўных школ і класаў г. Мінска. Завадатарамі (важатымі) у летніку працуюць студэнты філфака БДУ, творчая моладзь. Сезон у «Грунвальдзе» прадоўжыцца да верасня.

У Барселоне патушаны агонь Алімпіяды-92. Беларускія спартсмены заваявалі на гэтых гульнях 13 залатых медалёў. Гонар нашае краіны—шасцікратны алімпійскі чэмпіён Барселоны па гімнастыцы Віталь Шчэрба, самыя дужыя мужчыны планеты цяжкаатлеты Аляксандр Курловіч з Гродна (залаты медаль у супервагавай катэгорыі) і Леанід Тараненка з Мінска (сярэбраны медаль у той жа катэгорыі), стралок з Гродна Кастусь Лукашык і бягуння Алена Рудкоўская, а таксама ўдзельнікі камандаў СНД па гандболу (мужчыны) і баскетболу (жанчыны).

**10 ЖНІЎНЯ**

У рэспубліцы пачалася падпіска на газеты і часопісы Беларусі. Каталог выданняў папоўнены газетамі «Царкоўнае слова» і «Этыкет», часопісамі «Гаспадыня» і «Беларуская мінуўшчына».

Савет свабодных прафсаюзаў накіраваў тэлеграму Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевічу, міністру інфармацыі А. Бутэвічу і старшыні Нацыянальнай дзяржтэлекампаніі А. Сталярову, у якой выказаў абурэнне адхіленнем ад эфіру вядучай «НІКі» М. Бабкінай і рэарганізацыяй праграмы.

**11 ЖНІЎНЯ**

Міністр абароны Рэспублікі Беларусь падпісаў загад аб прыпыненні і недапушчэнні дзейнасці палітычых партый і арганізацый у беларускім войску.

У Беларусь прыбыла дэлегацыя Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў, удзельнікі якіх будуць знаёміцца з работай беларускіх прадпрыемстваў і дзяржаўных устаноў, пабываюць у калгасах.

**12 ЖНІЎНЯ**

Устаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Рэспублікай Сінгапур. Усяго на гэты дзень Рэспубліка Беларусь наладзіла зносіны з 58 дзяржавамі свету, у Мінску працуюць 15 замежных пасольстваў.

# ГАРАЧЫМ БУДЗЕ І ВЕРАСЕНЬ?

## Сойм напярэдадні сесіі

Нашто ўжо гарачы сёлетні жнівень (кажуць, сто гадоў такога не было), але верасень будзе яшчэ больш спякотны. Гэта, калі весці гаворку аб палітычным жыцці Рэспублікі Беларусь, якая адносна нядаўна лічылася краем, дзе нічога не адбываецца. У верасні скончацца парламенцкія вакацыі. У верасні трэба будзе нешта вырашаць адносна рэферэндуму, а ўраду давядзецца рабіць справаздачу аб сваёй дзейнасці ў часе паміж сесіямі Вярхоўнага Савета. Адным словам, будзе горача... Гэты прагноз падмацоўваюць матэрыялы Сойма БНФ «Адраджэнне», што адбыўся 8 жніўня.

У Заяве аб судзе над народным дэпутатам Беларусі Яўгенам Новікавым Сойм разглядае гэты суд як палітычны фарс, як помсту чалавеку, які кажа праўду пра злачынствы ўладу маючых. Працэс супраць дэпутата Новікава сведчыць, на думку аўтараў дакумента, што праваахоўныя органы Беларусі паранейшаму знаходзяцца пад кантролем былой партнаменклатуры. Сойм патрабуе прыняцця Закона аб карупцыі і забароне дзяржаўным службоўцам займацца камерцыйнай дзейнасцю.

Рашэннем пра вайсковую прысягу Сойм звяртае ўвагу на тое, што прыняцце афіцэрамі прысягі на вернасць народу Беларусі ўсяляк тармозіцца антынезалежніцкімі сіламі. Сойм заклікае патрыятычных вайскоўцаў, у тым ліку і вайскоўцаў запасу прысягнуць на вернасць Беларусі 8 верасня 1992 года, у дзень беларускай вайсковай славы — Аршанскай перамогі 1514 года.

У Заяве аб будучым Дзяржаўным гімне Беларусі Сойм БНФ уважае рашэнне аб правядзенні конкурсу на напісанне новага гімна прынцыпова памылковым. Гімнам незалежнай Беларусі можа быць толькі твор, які прайшоў выпрабаванне часам.

Заяваю пра пагрозу свабодзе інфармацыі ў Беларусі выказваецца салідарнасць з журналістамі, якія аб'ектыўна адлюстроўваюць становішча ў Беларусі і церпяць за гэта палітычны пераслед; выказваецца трывога з прычыны паўторнага паняволення сродкаў масавай інфармацыі кіраўнічай наменклатурай.

Таксама прынята рашэнне аб падтрымцы беларускамоўнага дэмакратычнага друку, які апынуўся ў выключна цяжкім стане ў выніку папярэдняй антыбеларускай палітыкі ўладаў. Сойм заклікае ўсіх сяброў Фронту, усіх, каму дарагі лёс беларускай мовы і культуры, дзейсна падтрымаць дэмакратычныя беларускамоўныя выданні, падпісаўшыся на іх.

Галоўны дакумент, з ліку прынятых на Сойме —Заяву «Унутрыпалітычнае становішча і лёс нашай незалежнасці», мы друкуем цалкам.

**«Вярхоўны Савет Беларусі сваімі паўгадавымі «канікуламі» дамогся адкрытае народнае непавагі і знік з палітычнага жыцця. Экскамуністычная большасць Вярхоўнага Савета зраслася з Саўмінам, і ў Беларусі безраздзельна гаспадарыць ранейшая партыйная алігархія.**

**Кіраўніцтва ўрада больш не робіць выгляду, што дбае пра лёс Беларусі і яе незалежнасці. Не заключана ніводнага пагаднення, якое б дазваляла Беларусі мець карысць з унікальна выгоднага геаграфічнага становішча. «Эканамічная палітыка», заснаваная на вонкавым перайманні чужых эксперыментаў пры захаванні манапалізму, правальваецца. Расце злачыннасць і бушуюць пажары—урад бяздзейны і бездапаможны. Авантура з павышэннем цэнаў на мяса, якім забіты дзяржаўныя халадзільнікі, абурыла літаральна ўсіх жыхароў нашай краіны. Савет Міністраў жа ў першую чаргу займаецца наменклатурнаю прыватызацыяй і стварае прыярытэтныя ўмовы для кампрадорскага прадпрымальніцтва, якім заняліся былыя камуністычныя апаратчыкі. Народнае падтрымкі ў Беларусі ўрад не мае і ў страху перад рэферэндумам шукае апоры ў чужой дзяржавы, якая будзе падтрымліваць любы тутэйшы рэжым — абы трымаць тут свае войска, кантраляваць нашу эканоміку і мець калідор на Захад.**

**20 ліпеня ў Маскве падпісаны расейска-беларускія дакументы, якія маюць вялікае палітычнае значэнне. Падпісаны без ніякіх папярэдніх парламенцкіх і грамадскіх абмеркаванняў, частка дакументаў падпісана нават без даручэння на тое Вярхоўнага Савета. Шматлікія палажэнні маскоўскіх пагадненняў скіраваныя супраць незалежнасці, супраць эканамічных інтарэсаў Беларусі і кожнага з нас.**

**Гэта — захаванне адзінае рублёвае прасторы, якая ўжо прывяла да «лібералізацыі» цэнаў, абясцэньвання ўкладаў, страты абаротных сродкаў прадпрыемстваў. Прыватызацыя ж пры адсутнасці ўласнай валюты прывядзе да канчатковага разрабавання нацыянальнага багацця —усё будзе скуплена за прывезеныя рублі.**

**У пагадненнях Беларусь адмаўляецца ад прынятай ва ўсім свеце платы за транспартны транзіт. Велізарныя патокі транспарту з усходу рушаць праз нашу тэрыторыю, наносячы ёй экалагічную шкоду, але Беларусь не атрымлівае ні рубля кампенсацыі і губляе мільярды.**

**Пагадненні замацоўваюць манапольную сыравінную залежнасць Беларусі ад Расеі. «Сумеснае абсталяванне» мяжы з балтыйскімі краінамі — гэта геапалітычны выбар на карысць Расеі. Мяжа з ёю застаецца «празрыстай», у той час калі, прыкладам з Літвой-«жорсткаю» і фактычна падкантрольнаю Расіі. Мы — за добразычлівыя і ўзаемавыгадныя сувязі з усімі суседнімі дзяржавамі, за «празрыстасць» усіх межаў Беларусі для чалавечых кантактаў, для сумленнага гандлю, для лучнасці з супляменнікамі. Але мы — за мяжу, падкантрольную толькі Беларусі, за мяжу, праз якую да нас не праедзе злачынца, махляр, тэрарыст.**

**Асаблівую небяспеку для будучыні Беларусі тояць маскоўскія вайсковыя пагадненні. Паводле іх, Беларусь — прэтэндуючы на нейтральны статус— утрымлівае на сваёй тэрыторыі бліжэйшыя 7 гадоў вялікія вайсковыя сілы іншай дзяржавы і ў асноўным забяспечвае іх, аддае Расіі пад кантроль сваю вайсковую прамысловасць. Гэта —запрашэнне на акупацыю нашай краіны. І калі прэзідыум ВС спрабуе зараз пратэставаць супраць падзелу флоту паміж Расіяй і Украінай пры ігнараванні інтарэсаў Беларусі, гэта — маханне кулакамі ўслед цягніку, які ўрад пакіраваў па дарозе дзяржаўнай здрады.**

**Паміж Расіяй і шэрагам былых рэспублік СССР склаліся напружаныя адносіны. Заключаныя пагадненні не толькі прывязваюць Беларусь да знешняй палітыкі Расіі, але ўтвараюць геапалітычную пагрозу іншым нашым суседзям. Такая міжнародная палітыка цалкам супярэчыць Дэкларацыі аб суверэнітэце і непрымальная для дэмакратычных сілаў Беларусі.**

**Урад Беларусі, не чакаючы ратыфікацыі асноўнае вайсковае дамовы з Расіяй Вярхоўным Саветам, заключыў дадатковыя пагадненні, якія дзейнічаюць з моманту падпісання. Сойм катэгарычна пратэстуе супраць такога грубага парушэння міжнародных нормаў і беларускага заканадаўства. Сойм папярэджвае Вярхоўны Савет і ўрад аб недапушчэнні ўвядзення ў дзеянне гэтых пагадненняў да разгляду пытання на сесіі Вярхоўнага Савета.**

**Былая партнаменклатура ў Беларусі забяспечвае свой наступ інфармацыйнаю палітыкай: манапалізацыяй прэсы ў руках Саўміна, пераследам іншадумства на тэлебачанні. Яна спадзяецца чарговы раз падмануць народ. Але зняменне пасля ўвядзення псеўдарынкавай эканомікі ў людзей праходзіць, ізноў расце палітычная актыўнасць. Больш і больш людзей прыходзіць да перакanання, што наш паратунак — нацыянальная кансалідацыя на грунце незалежнасці Беларусі і дэмакратыі. З'яднаўшыся, мы выйдзем на рэферэндум, каб нарэшце адкрыць дарогу вольным выбарам і стаць на цяжкі, але выратавальны шлях пабудовы незалежнасці, здаровай эканомікі, дэмакратычных рэформаў».**

РЭПЛІКА

# КАЛАНІЯЛЬНЫ СТЫЛЬ

Што наша дзяржава маладая, ведаюць усе. Таго, хто ходзіць па вуліцах і чытае шыльды, у гэтым пераконвае іх афармленне.

Нікога не здзіўляюць бэсэсэраўскія ці нават эсэсэсэраўскія шыльды. Усе звяртаюць увагу на новыя — з Пагоняй. А тут, як кажуць, хто ў лес, хто па дровы. Ніякіх стандартаў няма. Пры ўваходзе ў Дом урада шыльда аформлена так, а на будынку Міністэрства інфармацыі— гэтак. На будынку ж Міністэрства замежных спраў ужо не герб нават, а фантазія на тэму Пагоні.

Ва ўсіх краінах ёсць стандарты. Прадугледжаны памеры шыльдаў, спалучэнне колераў на іх, зацверджаны шрыфты, суадносіны паміж гербам і тэкстам. Паедзьце хоць бы ў Польшчу — і вы пераканаецеся ў гэтым. У нас жа шыльды, то шкляныя, то металёвыя, то шырокія, то высокія, і багатая палітра колераў.

Шыльды дзяржаўных устаноў павінны быць аднастайныя і абавязкова з гербам. А ў нас на будынку Вярхоўнага Савета вісіць шыльда без Пагоні. Што ж тут казаць пра бел-чырвона-белы сцяг, які лунае пад пяцікутнаю зоркай? Рыхтык як у старыя часы.

Як у старыя часы, нашы дзяржаўныя ўстановы вывешваюць двухмоўныя шыльды. Гэта, мусіць, дзеля таго, каб які небарака мог пераканацца, што «Вярхоўны Савет» — гэта «Верховный Совет», а «Савет Міністраў» — «Совет Министров».

Стыль нашых шыльдаў — каланіяльны. У бэсэсэраўскіх правілах было запісана, што беларускі тэкст размяшчаецца злева, а рускі —справа. У гады «развітога сацыялізму» «сапраўдныя інтэрнацыяналісты» пачалі явачным парадкам мяняць гэтае правіла. І мяняюць да гэтага часу. На вуліцы Кірава можна прачытаць: злева «Приемная Верховного Совета», а справа — «Прыёмная Вярхоўнага Савета».

Цікава, ці не шкада ў наш час панам «інтэрнацыяналістам» грошай, фарбы, іншых матэрыялаў? Можа, лепш перайсці на адну мову — «язык межнационального общения»? А як тады быць з дзяржаўнаю моваю?

Вядома, ёсць і іншыя прыклады: Міністэрства замежных спраў, Міністэрства інфармацыі...

Што ж датычыць шкляных шыльдаў, дык можна было б падумаць, ці не ўзяць за ўзор спалучэнне герба і тэксту, шрыфты і колеры на шыльдзе Кантрольнай палаты. Хоць і тут «інтэрнацыяналісты» пастараліся. Вельмі ім карцела патлумачыць нейкаму невуку, што «Кантрольная палата» — гэта «Контрольная палата». Няўжо ў нас гэткі цёмны народ?

С. А.

## У ГОНАР СВЯТЫХ ЗАСТУПНІКАЎ

Менск мае свайго святога апекуна. Невыпадкова на гарадскім гербе выява Маці Божае сярод анёлаў. Згодна паданню, абраз са Святой выявай прынесла цячэнне ракі да менскіх берагоў і жыхары абралі яго сваім сімвалам веры і надзеі. Дарэчы, у іспанскай зямлі Андалузіі таксама патронкай лічыцца Маці Божая, і край той часта так і завецца — зямля Дзевы Марыі. Ёсць традыцыйнае Свята Узнясення Дзевы Марыі і ў Венецыі.

І яшчэ з адным італьянскім горадам своеасабліва злучаны Менск у сваім духоўна-хрысціянскім жыцці — Фларэнцыяй. Адтуль з'явіліся на Беларусі манахі Ордэна, што меў за патрона святога Роха, самаахвярнага фларэнційца, які дапамагаў хворым падчас эпідэміяў, што лютавалі ў Еўропе ў мінулым. Закранула эпідэмія і Менск колькі стагоддзяў назад. Манахі Ордэна святога Роха самаахвярна дапамагалі хворым жыхарам горада. Пасля таго, як пошасць адступіла, менчукі прызналі святога Роха сваім апекуном. А калі на могілках, што знаходзіліся на Залатой Горцы непадалёк Свіслачы ў XIX ст., быў пабудаваны касцёл Святой Троіцы, дык ён адначасова стаў і апекуном, патронам касцёла, бо менавіта на гэтых могілках хавалі ахвяр эпідэмій. Скульптурная выява св. Роха была змешчана таксама ў алтарнай нішы ў самім касцёле, і там да бальшавіцкага перавароту адбываліся набажэнствы.

Сёлета, згодна з рымска-каталіцкай традыцыяй, шчыльна сышліся святы двух менскіх заступнікаў — 15 і 16 жніўня. У суботу з 8 гадзін раніцы пачынаецца набажэнства ў касцёле на Залатой Горцы ў гонар Узнясення Дзевы Марыі. А ў нядзелю, на наступны дзень а 12 гадзіне адбудзецца ўрачыстая імша ў гонар святога Роха. У ёй будзе прымаць удзел Мітрапаліт Беларускі, арцыбіскуп Пінскі, Менскі і Магілёўскі Казімір Свёнтак, іншыя святары. Калі дазволіць надвор'е, дык служба будзе перанесена на вялікую пляцоўку ля касцёла.

Францішак НЁМАНЕЦ.

## ЗАПРАШАЮЦЬ ДА РАЗМОВЫ

19—20 жніўня ў Маладзечна адбудзецца міжнародная навуковая канферэнцыя «Развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», якую ладзяць Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Акадэмія навук Беларусі. У канферэнцыі маюць браць удзел больш чым 150 даследчыкаў — філолагаў, філосафаў, культуролагаў і інш. — з розных краін свету, а таксама слухачы Міжнароднай школы беларусістыкі, што працуе ў гэтыя дні пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Акрамя Савета Міністраў, чынна паспрыялі арганізацыі канферэнцыі Маладзечанскі выканкам гарсавета і прыватная фірма «Бізнес-цэнтр». Пасяджэнні канферэнцыі будуць праходзіць у памяшканні політэхнічнага тэхнікума. Арганізатары мерапрыемства запрашаюць настаўнікаў, работнікаў культуры рэспублікі, навукоўцаў, хто мае час і магчымасці, прыехаць у Маладзечна і паприсутнічаць на пасяджэннях секцый канферэнцыі — чакаюцца разнастайныя і цікавыя выступленні.

## РАЯЦЦА МАЛАДЫЯ ВЫДАЎЦЫ

На пачатку жніўня ў Лепелі адбылася сустрэча прадстаўнікоў суполак маладых літаратараў, якія спрабуюць самастойна займацца выдавецкай дзейнасцю. У сустрэчы ўдзельнічалі Алесь Аркуш (Наваполацк), Ігар Сідарук (Кобрын), Вера Бародзіч (Лепель), Сяржук Мінскевіч (Менск). Абмяркоўваліся ўжо выдадзеныя імі кнігі і літаратурныя альманахі, разглядаліся пытанні супрацоўніцтва. У хуткім часе пабачыць свет другі альманах лепельскіх літаратараў, выдавецкая суполка «Полацкае ляда» здала ў набор паэтычны зборнік горадзенскага паэта Юрыя Гуменюка «Водар цела». Гатовы таксама да друку трэці нумар «Ксэракса беларускага», а студэнты Белдзяржуніверсітэта падрыхтавалі свой літаратурны альманах.

А. К.

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# Берасцейскія анекдоты

**Некалі я задумваўся: скуль бяруцца анекдоты? Наіўна меркаваў, як мо нехта мяркуе і цяпер, што сядзяць сабе ў зацішных кабінетах дасціпныя пісьменнікі, журналісты дый прыдумваюць творы гэтага папулярнага жанру. Як бы не так! Хіба ж не з анекдотаў складалася і складаецца наша жыццё? Вунь нават цэлая кніжка выйшла — «Гісторыя СССР у анекдотах». СССР не стала, дык засталіся тыя самыя бюракратычныя структуры, а ў іх — тыя ж тыповыя героі. Нічога і прыдумваць не трэба, бяры ды спісвай. Ну, напрыклад, з пастановы нашага Вярхоўнага Савета: дзень працы абвясціць непрацоўным днём... А што ўжо казаць аб правінцыі! Што ні допіс у газету з глыбінкі, дык жывы анекдот. Праўда, аўтары зазвычай стараюцца надаць яму публіцыстычную завершанасць: абураюцца, смуткуюць, робяць палітычныя высновы. Так у свой час рабіў і я, прыводзячы факты з жыцця самай заходняй правінцыі — Берасця. На гэты ж раз абмяжуюся аднымі фактамі, якія скажуць самі за сябе. А нарадзіліся гэтыя непрыдуманыя анекдоты нядаўна, у часе падрыхтоўкі і святкавання першага афіцыйнага Дня незалежнасці Беларусі.**

**Анекдот першы.** Адна добра знаёмая журналістка запыталася ў свайго шэфа, былога сакратара пярвічнай арганізацыі КПБ-КПСС: «Як будзем асвятляць праз газету святкаванне Дня незалежнасці?» «Незалежнасці — ад каго?» — з'едліва адрэагаваў той. «Ад вас», —знайшлася што сказаць журналістка.

**Анекдот другі.** Адказ на пытанне «ад каго — незалежнасць?» лацвей чым каму было знайсці Берасцейскаму гарвыканкаму: услед за першым святам ішло другое — Дзень вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У выканкаме вырашылі сумясціць іх і склалі адпаведную праграму: урачысты сход, ускладанне кветак да помнікаў, выступленне хору ветэранаў, расквечванне парку чырвонымі і зялёнымі сцяжкамі, увечары— ілюмінацыя з яркіх пяцікутных зорак... І атрымалася новае, камбінаванае свята — Дзень незалежнасці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Анекдот трэці.** З праграмай, прапанаванай берасцейскімі ўладамі, не пагадзіліся тутэйшыя актывісты БНФ, БСДГ ды іншых дэмакратычных рухаў і партый, а таксама творчых саюзаў. Асабліва здзівіла іх тое, што свята абмінала цэнтральны пляц горада (ён усё яшчэ носіць імя Леніна). Чаму так, калі раней — і на рэвалюцыйныя святы, і нават на Новы год — тут не было дзе яблыку ўпасці? Запрапанавалі пашырыць праграму і правесці на пляцы культурна-масавую імпрэзу пад знакам нацыянальнага Адраджэння. «Што ж, праводзьце, — дыпламатычна пагадзіўся старшыня гарвыканкама І. Венцаль. — Аднак ні на падмосткі, ні на мікрафоны не разлічвайце: няма грошай». І ў доказ зрабіў шырокі агляд эканамічнага стану Берасця, з якога вынікала: выдаткі на ўстаноўку мікрафонаў проста-такі «даб'юць» гарадскі бюджэт.

**Анекдот чацвёрты.** Пакуль ініцыятары адраджэнскай імпрэзы саматугам вырашалі праблему яе агучвання, старшыня гарвыканкама рыхтаваўся «агучваць» даклад на ўрачыстым сходзе. Рыхтаваўся, як засведчыла выступленне, без вялікай ахвоты: звыклы да ўсхвалення рэвалюцыйных заваёў Краіны Саветаў, сёе-тое наблытаў у гісторыі Вялікага княства Літоўскага; абыякавы на працягу многіх гадоў да жыцця творчых арганізацый, назваў сярод вядомых пісьменнікаў-берасцейцаў... Алега Антонавіча Лойку...

**Анекдот пяты.** Аказваецца, у часе святкавання Дня незалежнасці кімсьці праводзілася апытванне берасцейцаў: колькі дзяржаўных моў ім трэба? Што адказалі апытаныя, з артыкула журналіста В. Канавалюка ў абласной газеце не вынікае, затое сам аўтар выказаўся адназначна: дзве, прычым родная кропля ў кроплю мусіць быць падобная да нянароднай, і крый Божа вярнуць ёй аблічча дарэпрэсіўных гадоў!

**Што ж, правінцыя працягвае жыць пад знакам уяўных святых. Таму ў бліжэйшы час не выключаюцца і новыя анекдоты. Скажам, чаму б Берасцейскаму гарвыканкаму восеньскі Дзень памінання продкаў не сумясціць з чарговымі ўгодкамі Вялікага Кастрычніка? Яны ж, нібыта, сумяшчальныя. 2 і 7 лістапада ў календары побач, да таго ж і сінтаксічная форма назвы не парушыцца: Дзень памінання Вялікага Кастрычніка... Аднак пажывём — пабачым, я ж, далібог, нічога не прыдумваў.**

**Алесь КАСКО.**

г. Берасце.

# МІСІЯНЕРАЎ ЧАКАЕ РАДЗІМА

Гэтымі днямі 29 каталіцкіх ксяндзоў — грамадзян Рэспублікі Польшча павінны былі пакінуць тэрыторыю Рэспублікі Беларусь. Падзея не тое, каб надзвычайная, але і звычайнай яе не назавеш. Бо дагэтуль рух ішоў толькі ў адным напрамку, у бок пашырэння «абмежаванага кантынгента» суседняй дзяржавы на нашай зямлі. І вось нарэшце «ваяры-інтэрнацыяналісты» (трэба думаць, за веру Хрыстову?) вяртаюцца дадому.

Можа, прычына вяртання ў антыбеларускай дзейнасці польскіх ксяндзоў? Вядома, што ў касцёлах вывешваліся польскія сцягі, партрэты Валенсы, ішла адкрытая прапаганда за «вяртанне» Польшчы «крэсаў усходніх». Па іншай версіі, гэтыя ксяндзы з'явіліся на Беларусі самапасам: звыш ліміту, вызначанага міждзяржаўным пагадненнем. Фактычна як прыватныя асобы, без відаў на працу і жыхарства. І вось візы скончыліся...

Так ці інакш, але ў афіцыйных інстанцыях карэспандэнту «ЛіМа» не ўдалося высветліць, што ж было канкрэтнай падставай для адпраўкі ксяндзоў на радзіму, як і ўвогуле, хто прымаў ці не прымаў такое рашэнне.

**В. БОГУШ.**

**БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭЛІТА: ТЫПЫ ЯК АНТЫТЫПЫ

**Алесь АНЦІПЕНКА,**
кандыдат філасофскіх навук, навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН Беларусі

**Шлях нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў сёння даволі складаны і супярэчлівы. Што азначае гэты працэс? Кажучы ўвогуле, гэта — вяртанне да саміх сябе, да каранёў, да саматоеснасці, у свой дом.**

**Але ХТО мы, дзе нашыя карані і дзе наш дом? Для значнай колькасці этнічных беларусаў гэтыя пытанні далёка не адназначныя. Калі існуе непарыўнасць традыцый, калі народ у поўнай меры з'яўляецца суб'ектам свае гісторыі (г. зн. творыць яе паводле свайго разумення і ў адпаведнасці са сваімі нацыянальнымі інтуіцыямі), адказы на гэтыя пытанні ў той ці іншай форме заўсёды прысутныя ў свядомасці (падсвядомасці). Яны рэпрэзентаваны ў выглядзе ці то добрага ведання нацыянальнай гісторыі і культуры, ці то пэўнага эмацыйнага комплексу нацыянальных самаідэнтыфікацый, ці то на ўзроўні знакаў-сімвалаў. На жаль, гісторыя ў значнай ступені непрасветленая і непрачытаная з беларускага пункту гледжання, эмацыйныя ідэнтыфікацыі расплывістыя, а знакі-сімвалы нацыянальнай годнасці паўстаюць найчасцей у выглядзе адчужаных і напаўзабытых постацяў нацыянальнай гісторыі і культуры.**

**Між тым, нягледзячы на ўсё гэта (і на прышчэпленыя да свядомасці «тыповага» беларуса шматлікія стэрэатыпы пра агульнасць і непарыўнасць гістарычнага і нацыянальнага лёсу ці то з усходнім, ці то з заходнім суседам), ён так і не можа канчаткова рашыцца на тое, каб з радасцю прызнаць сябе расійцам ці палякам. (Паводле аднаго з апошніх сацыялагічных апытанняў, 74 працэнты беларусаў не змаглі выказацца ні на карысць беларусізацыі, ні на карысць поўнай русіфікацыі нашага культурнага жыцця).**

**Не ў стане ён пакуль што свядома і з радасцю вызнавацца беларусам. Чаго бракуе і што замінае гэтаму?**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ НІГІЛІЗМ І ЭСКЭЙПІЗМ

Нацыянальны нігілізм — з'ява не толькі беларуская, але шырока распаўсюджаная ў нашым грамадстве. Ад пачатку неабходна падкрэсліць, што нацыянальны нігілізм уласцівы перш за ўсё інтэлектуальна-інтэлігенцкім колам. Менавіта тут ён зараджаецца і існуе як пэўная ідэалогія (дарэчы, гэтак жа сама, як і нацыянальная ідэя, якая можа ўзнікнуць у інтэлігенцкім асяродку). Ва ўсім астатнім нацыянальны нігілізм супрацьлеглы нацыянальнай свядомасці і ідэі.

Грунтам, на якім аб'ектыўна ўзнікае і фармуецца нацыянальны нігілізм, з'яўляецца пэўная сістэма адукацыі і выхавання, якая ў сваю чаргу базуецца на нацыянальна-культурных каштоўнасцях, гісторыі і гісторыка-культурных традыцыях ІНШАГА народа. Відавочная супярэчлівасць, якая ўзнікае ў дадзеным выпадку (а чаму выхаванне вядзецца паводле нацыянальна-культурных каштоўнасцяў іншага народа!), здымаецца, так бы мовіць, шляхам шматлікіх дэкларацый пра асабліва-выключныя стасункі з гэтым народам, пра ягоную збаўленчую і братэрскую місію, пра небяспеку, якая заўсёды зыходзіць з якогась боку.

Стан супярэчлівасці, комплекс культурнага сервілізму, якія прысутныя ў свядомасці нацыянал-нігіліста, прымушаюць яго тварыць розныя аргументы апраўдання дадзенай сітуацыі, з чаго і ўзнікае пэўная і даволі добра рацыяналізаваная ідэалогія. Адметнасцю гэтай ідэалогіі з'яўляецца тое, што яна падсвядома пабудавана на інтэлектуальных і маральных сафізмах, бо нацыянал-нігіліст заўсёды ў той ці іншай ступені ўсведамляе сваё нацыянальнае паходжанне і этнічную прыналежнасць, а з другога боку, арыентаваны на іншую культуру і гісторыю, інтэлектуальна і духоўна жыве ў варунках і прасторы гэтай іншае культуры. Як чалавек сапраўды інтэлектуальны і цікаўны, ён не пазбаўлены пэўнай дасведчанасці ў сваёй нацыянальнай культуры і гісторыі, але гэта толькі яшчэ больш узмацняе супярэчлівасць ягонай свядомасці. Выйсце з гэтай сітуацыі для нацыянал-нігіліста палягае ў інтэлектуальнай працы на дзялянцы іншай культуры, чым ён старанна і займаецца, але найчасцей не ў якасці творцы гэтай культуры, а каментатара і прапагандыста як для самога сябе, так і для сваіх этнічных суродзічаў.

Варта сказаць, што сучаснымі інтэлектуаламі-беларусамі праароблена ў гэтым накірунку вялікая праца: напісаны шматлікія даследаванні пра класікаў рускай літаратуры (гэта не было забаронена), былыя каментатары марксізму з радасцю паглыбляюцца ў расійскую філасофію, навукоўцы-юрысты аналізуюць палітычную сістэму былой Расійскай імперыі і прыходзяць да высновы, што самаўладдзе з'яўляецца найлепшай формай дзяржаўнага ўладкавання. Апошнім часам узнікаюць і новыя формы нацыянал-нігілізму, якія знаходзяць апірышча на канфесійным грунце. Недалёка, пэўна, і той час, калі нацыянал-нігілізм аформіцца і ў палітычным сэнсе і заявіць пра сябе ў існаванні прапольскіх ці прарасійскіх партый.

Тлумачэнні нацыянал-нігілізму трэба шукаць у пэўных сацыяльных варунках, але не толькі ў іх. Гэта з'ява сацыяльная і культурна-псіхалагічная. Носьбітамі гэтай ідэалогіі, як мы ўжо адзначалі, з'яўляюцца прадстаўнікі інтэлектуальна-інтэлігенцкіх колаў, дзе ступень інтэлектуальнай свабоды значна вышэйшая, чым у астатніх сацыяльных групах. Інакш кажучы, інтэлектуалы-інтэлігенты самі твораць пэўную ідэалогію, а стан іхняй свядомасці вызначаецца не толькі знешнімі фактарамі.

Пазбаўлены каранёвага пачуцця свайго народа і зямлі продкаў, наш нацыянал-нігіліст разглядае культурную сітуацыю, у якой ён знаходзіцца, як праблему чыста інтэлектуальную. Выбар культурных арыентацый ёсць для яго выбар, зроблены перадусім на падставе інтэлектуальных крытэрыяў. Розныя культуры (свайго ўласнага народа і народа-суседа) разглядаюцца як культуры-канкурэнты паводле крытэрыяў рацыяналізаванасці, распрацаванасці іх на ўзроўні філасофіі, добрай інтэлектуальнай прозы, складанай паэзіі і г. д.

Маючы на ўвазе задавальненне сваіх уласных інтэлектуальных запатрабаванняў, нацыянал-нігіліст лёгка робіць выбар на карысць той культуры, дзе ён знаходзіць патрэбныя задавальненні і адказы на пытанні свайго ўласнага інтэлектуальнага жыцця. Не цяжка ўявіць сабе той выбар, які будзе зроблены, калі ў сітуацыю інтэлектуальнай канкурэнтаздольнасці паставіць, напрыклад, прозу Ф. Дастаеўскага і К. Чорнага, гістарычныя працы В. Ключэўскага і У. Ігнатоўскага, паэзію Ф. Цютчава і Я. Лучыны і г. д. Недарэчнасць гэтай сітуацыі, аднак, найчасцей знаходзіцца па-за свядомасцю нацыянал-нігіліста. Ён проста не разумее, што КУЛЬТУРЫ РОЗНЫХ НАРОДАЎ У ПРЫНЦЫПЕ НЕ МОГУЦЬ З'ЯЎЛЯЦЦА КАНКУРЭНТАЗДОЛЬНЫМІ, як не могуць канкурыраваць сыноўняе пачуццё да маці з пачуццём да іншай жанчыны.

Сапраўдны ж выбар — гэта перадусім выбар не інтэлектуальны, але ЭКЗІСТЭНЦЫЙНЫ, г. зн. выбар, які не вядзе да гвалтоўнага разрыву з мінуўшчынай і які жывіцца містычным пачуццём непарыўнай лучнасці з продкамі і зямлёй як месцам адвечнага супакою дзядоў і ўсіх суродзічаў.

Другім важлівым крытэрыем для нацыянал-нігіліста з'яўляецца крытэрый прэстыжнасці. Не выклікае сумнення тое, што расійская і польская культуры маюць сусветнае гучанне. «Прэстыж» гэтых культур высокі і прызнаны. Для нацыянал-нігіліста гэта мае выключнае значэнне з тае прычыны, што сам сябе ён успрымае не экзістэнцыйна, а аб'ектавана, так бы мовіць, вачыма іншых людзей і праз іншую культуру. Таму, выбіраючы тую ці іншую культуру, нацыянал-нігіліст выбірае і пэўны погляд на самога сябе з боку іншых людзей, менавіта погляд на сябе як на прадстаўніка «прэстыжнай» культуры.

Рэйтынг самаадчування інтэлектуала-беларуса тым больш вышэйшы, чым больш прэстыжная ў дадзены момант культура таго ці іншага народа-суседа. (Пры панаванні польскай культуры назіраўся працэс масавага пераходу беларускіх вышэйшых класаў у польскую культуру, цяпер гэты працэс мае ўсходні накірунак).

Прэстыжнасць у свядомасці нацыянал-нігіліста шчыльным чынам звязана з адчуваннем камфортнасці, перадусім камфортнасці інтэлектуальнай. Ён добра і адвольна пачуваецца ў варунках той культуры, дзе інтэлектуальныя стандарты даволі высокія і прывабныя і якія застаецца толькі засвоіць. Свая ж уласная культура патрабуе ўжо не столькі спажывецкага стаўлення, колькі творчага і актыўнага **прачытання,** што магчыма, калі чалавек знаходзіцца не па-за гэтай культурнай традыцыяй, а ўнутры яе. Гэта ўжо пазіцыя экзістэнцыйная. Набыццё такой пазіцыі вымагае не толькі пэўных інтэлектуальных высілкаў, але ж і часам даволі рашучага выбару на карысць саматоеснасці і аўтэнтычнасці. Скажам, яшчэ ў зусім недалёкія часы свядома і адкрыта вызнавацца беларусам было ў пэўнай меры небяспечна. Сёння гэта проста некамфортна з прычыны існавання комплексу нацыянальнай непаўнавартаснасці. Апошняе вельмі хутка высвятляецца, калі наш інтэлектуал-беларус пачынае размаўляць на сваёй роднай мове ва ўсіх, так бы мовіць, грамадскіх месцах. Насмешкі, кпіны, скептычныя заўвагі і няўцямныя позіркі суправаджаюць ягоныя актыўна беларускія паводзіны. Не кожны інтэлектуал, уяўляючы сабе такую сітуацыю, здольны вытрымаць такое стаўленне да сябе.

**Дыскамфорт узнікае** і пры засваенні беларускай мовы. Мысленне беларуса-інтэлектуала цалкам збудавана на рускай мове. Засваенне сваёй роднай на першапачатковых этапах вядзе да страшэннай спрымітызаванасці думкі, няздольнасці выказацца дакладна. Гэта амаль што невыносна і ўспрымаецца пакутліва і хваравіта.

Шматлікія і часам непераадольныя, як падаецца, перашкоды на шляху да нацыянальнай тоеснасці спараджаюць у пэўнай часткі інтэлектуалаў - беларусаў эскэйпіскія паводзіны, па сваёй сутнасці завершаны нацыянал-нігіліст — гэта перадусім эскэйпіст (ад ангельскага to escape — пазбягаць, уцякаць). Ён адмаўляецца ад беларускасці, таму што не хоча браць на сябе адказнасці ні за сваю культуру, ні за свой народ, наогул не хоча несці аніякай адказнасці ні за сябе, ні за астатніх у нацыянальным сэнсе. Народ для нацыянал - нігіліста — гэта катэгорыя адцягненая і абстрактная. Найбольш радыкальныя аргументы на карысць сваёй пазіцыі ён знаходзіць у адкідванні нацыянальнай гісторыі як гісторыі самастойнага народа, у свядомых ці падсвядомых яе фальсіфікацыях.

Нацыянал-нігіліст не мае аніякае нацыянальнае волі, а прысутнасць яе ў астатніх пужае і раздражняе яго, выклікае адмоўнае стаўленне. Ён не бачыць аніякай карысці ні ў ідэі нацыянальнай самастойнасці, ні ў ідэі нацыянальнай дзяржаўнасці. Яны яму проста не патрэбныя, таму што ён не ўяўляе сябе ні творцам, ні суб'ектам нацыянальнай гісторыі і культуры.

Ён нічога не хоча выбіраць; захаваць статус-кво і пазбегнуць усялякіх залішніх клопатаў — тыповая пазіцыя мясцовага нацыянал-нігіліста.

## СМЕРДЗЯКОЎШЧЫНА

Смердзякоўшчына — з'ява гэткая ж тыпалагічная, як і нацыянал-нігілізм. Але калі нацыянал-нігіліст у сваім адмоўным стаўленні да сваёй культуры і народа застаецца на грунце інтэлектуальнасці і ягоная пазіцыя з'яўляецца, так бы мовіць, халоднай і рацыянальнай, то смердзякоўшчына ў адмаўленні нацыянальнай свядомасці і самасці сягае самых крайніх формаў і агрэсіўнасці.

Па сваім паходжанні тутэйшыя смердзяковы — гэта найчасцей людзі, што нарадзіліся на вёсцы ці ў тыповым беларускім мястэчку. Прыехаўшы ў горад, скаштаваўшы гарадскога жыцця, набыўшы якую-небудзь «гарадскую» прафесію ці нават вышэйшую адукацыю, яны праз пэўны час добра засвойваюць гарадскія манеры жыцця. Горад для іх назаўсёды робіцца месцам культурным, а вёска ці мястэчка — гэта ўжо адпаведна месца «некультурнае» з грубымі нoравамі, адвечным брудам, капаннем у зямлі і гної, ды яшчэ з гэтай жахлівай беларускай мовай!

Такое стаўленне да вясковага ці местачковага ладу жыцця наш тутэйшы смердзякоў літаральна выпакутаваў: колькі сіл і намаганняў прыйшлося пакласці дзеля аваладання «культурнай мовай», засваення «правільнага» вымаўлення, каб не тыцкалі яму пад нос на кожным кроку «трапкай» ці якім-небудзь іншым словам.


Фота А. КЛЕШЧУКА.

Сваё нацыянальнае паходжанне тутэйшы смердзякоў уяўляе як нешта цьмянае і недарэчнае. Калі для нацыянал-нігіліста вызнавацца і быць беларусам — дзея неразумная, то для тутэйшага смердзякова гэта ўжо зусім гнюсна і ганебна. У яго ўяўленні беларусы — нацыя некультурная, дый наогул не народ, а быдла. Не ў стане даравацаь ні астатнім, ні самому сабе свайго нацыянальнага паходжання, наш смердзякоў мае

(Працяг на стар. 12).

**ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ**

Павел ДЗЮБАЙЛА

# РЭАЛЬНАСЦЬ І МІФЫ

Літаратура стварае свой эстэтычны свет на аснове рэальнага свету, аднак яна можа ўзнаўляць яго і праўдзіва, і прыблізна, знарок ці па няведанні міфалагізуючы яго з'явы і факты. Многія міфы складваліся пад уплывам палітычных, ідэалагічных установак. Крытыка ж з'яўляецца як бы пасрэднікам паміж жыццём і літаратурай, а таксама паміж літаратурай і чытачом. Таму сёння, калі так востра стаіць пытанне аб новым мысленні ў літаратуры і крытыцы, аб пазбаўленні ад дагматычных уяўленняў, аб напісанні новай, сапраўды аб'ектыўнай гісторыі народа, гісторыі культуры, літаратуры і мастацтва, неабходна спакойна разабрацца, што ў літаратуры ўвасаблялася як рэальнае жыццё народа і асобнага чалавека, а што было ў ёй сацыялагічнай схемай, ідэалагічнымі міфамі.

Літаратуразнаўства сёння перш за ўсё абавязана выпрацоўваць новую канцэпцыю літаратурнага развіцця, канцэпцыю новай гісторыі літаратуры. І рабіць гэта на аснове пераацэнкі многіх літаратурных з'яў і фактаў, пошукавых намаганняў, каб пазбавіцца ад «белых плям» у гісторыі, вярнуць гісторыі літаратуры ўсё значнае і вартае. У гэтых адносінах многа ўжо зроблена ў галіне скарыназнаўства, а таксама ў гісторыі старажытнай літаратуры, літаратуры XIX стагоддзя, у даследаванні творчасці рэпрэсаваных пісьменнікаў, пісьменнікаў-эмігрантаў. Можна толькі няўцямна падзівіцца нігілістычнаму, павярхоўна-задзірыстаму меркаванню нейкага Юркі Лявончыка («ЛіМ» за 20 сакавіка г. г.), які лічыць, што наша літаратуразнаўства і крытыка вельмі правінцыйныя, што займаюцца яны не тым, чым трэба, а іменна— канстатацыяй, крыніцазнаўствам, пошукамі. Але ж сёння, у пераходны час, стварэнне аб'ектыўнай гісторыі нацыянальнай літаратуры найважней. Без пошукаў, адкрыцця новых літаратурных фактаў і з'яў напісанне яе немагчыма.

Ну, а калі гаварыць пра міфы і забабоны, то найперш пра тыя, якія звязаны з абавязковасцю класавага падыходу ў літаратуры да жыцця, да героя. Як вядома, класавасць і партыйнасць аб'яўляліся важнейшымі прынцыпамі сацыялістычнага рэалізму. Агульначалавечыя каштоўнасці лічыліся буржуазнай выдумкай. Аб гуманізме можна было гаварыць толькі з эпітэтамі «актыўны», «ваяўнічы», «рэвалюцыйны». Класавасць героя ў станоўчай якасці разглядалася як пралетарскасць. Сфера сялянскага жыцця аб'яўлялася дробнабуржуазнай сферай, якая не магла мець пазітыўных духоўных пачаткаў, не магла выхоўваць станоўчага героя. Калі і мог быць у творах пазітыўны герой сялянскага паходжання, то абавязкова ён павінен быў быць сынам бедняка, пастуха, батрака. Але станоўчы герой нават і з такім паходжаннем мусіў абавязкова праходзіць перавыхаванне ў арміі ці ў рабочым калектыве.

Асаблівую сілу такія ідэалагічныя догмы набылі ў пачатку 30-х гадоў, калі павялося адкрытае наступленне на селяніна пад лозунгамі калектывізацыі, ліквідацыі кулацтва як класа. У выніку зямельных рэформ, зямельных перадзелаў у 20-я гады была знішчана эканамічная глеба для існавання кулацтва як класа. Савецкая ўлада дала зямлю селяніну, прапагандавала культурную гаспадарку (сучаснае фермерства?). Усе, хто быў сапраўдным селянінам, станавіліся на ногі, абжываліся, цяжкай працай стваралі сваю гаспадарку. З'явілася ў селяніна адчуванне гаспадара на сваёй зямлі. І раптам такія сяляне сталі кулакамі, якіх трэба раскулачваць, выганяць з родных хат, высяляць у Сібір, на Салаўкі...

А літаратура? Многія памылкі, міфы падзялялі і пісьменнікі, шчыра верачы ў ідэалы рэвалюцыі, праграму будаўніцтва шчаслівага будучага. Але была і кан'юнктура дня, жаданне «патрафіць» вульгарна-дагматычнай крытыцы, якая навешвала страшныя палітычныя ярлыкі на кожнага, хто не хацеў прыслухоўвацца да сацыялагічных догмаў. А з пачатку 30-х гадоў над усімі запанаваў яшчэ страх, самы звычайны чалавечы страх: людзей за нішто хапалі, судзілі, садзілі за калючы дрот, знішчалі. Каб быць аб'ектыўным, трэба ўлічваць усё гэта і не называць пісьменнікаў, у тым ліку Янку Купалу, Якуба Коласа, дэмагогамі. Напрыклад, чытаем у А. Лойкі: «Ім нічога не заставалася, як між дэмагогаў быць дэмагогамі і чорнае выдаваць за белае, белае за чорнае». Быў час, была эпоха: была вера, былі заблуджэнні, была дэмагогія, быў страх...

**Ц. Гартны, каб зрабіць свайго героя станоўчым рэвалюцыянерам, «адпраўляе» яго ў горад, у рабочы клас («Сокі цаліны»). К. Крапіва, каб не пісаць няпраўду пра селяніна, перапыніў працу над раманам («Мядзведзічы»). З. Бядуля прыслухаўся да вульгарна-сацыялагічнай крытыкі і спагаміў свой раман («Язэп Крушынскі», частка другая). Нават К. Чорны, які так замілавана адносіўся да свайго героя-селяніна і глыбока раскрыў яго радасці і трывогі ў 20-я гады, у творах 30-х гадоў (напрыклад, раман «Трэцяе пакаленне») не паказаў селяніна-працаўніка, а толькі селяніна-ўласніка (Тварыцкі). Героі рамана (Тварыцкі, Зося) праходзяць «перавыхаванне» таксама ў рабочых калектывах. А сельскае жыццё для гэтага як бы не тая сфера, як бы яно зусім пазбаўлена духоўных, маральных, сапраўды этычных пачаткаў.**

**Многа было сацыяльных міфаў і памылак як у жыцці, так і ў літаратуры, крытыцы і літаратуразнаўстве. Як жа пазбаўляецца ад іх сучасная літаратура і крытыка? У 60-х гадах раманы М. Лобана «На парозе будучыні», А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка» выяўлялі яшчэ традыцыйны, завостраны класавы падыход да жыцця вёскі. У аснове сваёй ён быў справядлівы, бо на вёсцы ішла барацьба за сацыяльнае і нацыянальнае разнявоЛенне. Аднак абсалютызацыя класавага фактару прыводзіла да таго, што станоўчым героем, выразнікам дум і пачуццяў селяніна стаў у рамане М. Лобана хоць і не пралетарый, але сын пастуха Кандрат Сарока. Усе тыя, хто не быў родам з пралетарска-бядняцкай масы, паказваліся ў сатырычным плане як вясковыя міраеды і кулакі.**

**У рамане А. Чарнышэвіча засцянковыя жыхары таксама прадстаўлены, як цёмная, адсталая, індыферэнтная маса, а вось парабкі ў панскім маёнтку на чале з Шэметам і Вярбіцкім як свядомыя, арганізаваныя, перадавыя людзі. І сумленнаму, працавітаму, інтэлігентнаму Андрэю Сташэвічу, селяніну-серадняку з Малінаўкі, нічога не заставалася як вучыцца ў парабкаў, «дарастаць» да іх класавай свядомасці.**

Пра якую духоўнасць можа ісці гаворка, калі чалавек жыве ў галечы, калі ён толькі рабочая сіла, калі думае толькі пра тое, як чаго паесці, як выжыць фізічна?! Дзе няма месца адчуванню, што ты гаспадар, жывеш хоць цяжка, але са сваіх рук, на сваёй зямлі,— цяжка гаварыць аб чалавечай годнасці.

Толькі сапраўдны гаспадар з замілаваннем любуецца позняй восенню і ранняй вясной дыванам смарагдавай азіміны, а летам шэрымі азёрнымі хвалямі збажыны, белым разводдзем квітнеючай грэчкі, блакітным морам лёну... Ідучы за плугам на сваім палетку, селянін радуецца нястомнай песні жаўрука, яна памагае яму працаваць, а зязюля на ўзлеску лічыць гады яму і яго жонцы, дзецям. У рэдкія святы з пачуццём чалавека, які мае права адпачыць, не парушаючы традыцыі і звычкі продкаў, гаспадар з гонарам запражэ каня ў лепшы вазок і паедзе на кірмаш або ў царкву, запросіць радню за свой гасцінны стол... І будзе радавацца, што ў яго не горш, чым у людзей, не горш, чым было ў бацькоў. Жыццё набывала глыбокі духоўны сэнс, бо яно ішло спрадвеку заведзеным парадкам — у працы, прыстойнасці і справядлівасці.

Іменна гэта сёння добра адчула наша літаратура. Яна шмат у чым вяртаецца да перарваных традыцый 20-х гадоў, да «Новай зямлі» Я. Коласа, да яго паэтычнага эпасу сялянскага жыцця. Праўда, ужо ў рамане А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка» была нясмелая спроба адысці ад класавай схемы, паказаць працавітую, сумленную сям'ю Юстыня Сташэвіча, селяніна-серадняка, сапраўднага гаспадара на сваёй зямлі. Але гэта былі першыя крокі.

Г. Далідовіч пайшоў далей. У раманах «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» наглядаецца свядомая паэтызацыя нармальнага сялянскага жыцця — Нямкевічы жывуць з цвёрдай верай у непераходзячае значэнне традыцыйных народных каштоўнасцей: жыць у працы па законах дабра, справядлівасці, сумлення.

Такая ж і сям'я Уласа Корсакаса з раманаў В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», «Голас крыві брата твайго». І што важна, дык гэта тое, што Ясь Нямкевіч і Улас Корсакас — людзі хоць і малаадукаваныя, але духоўныя, схільныя да натурфіласофскіх разваг пра жыццё і быццё наогул, пра дабро і зло, пра сумленне як жыццёвую неабходнасць, без якога чалавек перастае быць чалавекам.

І. Мележ у «Палескай хроніцы» бадай што першы не толькі ў беларускай, а і ва ўсёй савецкай літаратуры імкнуўся ўвасобіць ідэю непрыняцця калектывізацыі сялянствам, ідэю несумяшчальнасці тых форм гаспадарання, якія прымусова ўкараняліся самому спрадвечнаму ладу жыцця селяніна, яго псіхалогіі, этыцы і маралі. Пісьменнік апераджаў час, натуральна гэта ідэя і для яго не акрэслілася ў лагічна паслядоўнай форме, але вынікала з самога праўдзівага, глыбокага і ўсебаковага мастацкага даследавання побыту і быцця селяніна.

**Ідэя неапраўданасці прымусовай калектывізацыі як навуковая, лагічная выразна выявілася ў літаратуры канца 80-х — пачатку 90-х гадоў (прыгадаем раман Б. Мажаева «Мужыкі і бабы»). Калектывізацыя не прымалася ні заможнымі сялянамі (Глушак), ні серадняками (Чарнушка), ні беднякамі (Васіль Дзяцел), усімі, хто быў сапраўдным працаўніком на зямлі (распад калгаса ў Глінішчах — пацвярджэнне гэтаму). Яе віталі гультаі, абібокі, лайдакі, кар'ерысты (такія, як Дубадзел). Але яны даўно ўжо перасталі быць гаспадарамі на сваёй зямлі, а стаўка рабілася на іх (тыя ж камбеды). Міканор таксама ўжо не быў селянінам. Ён адрокся ад сваёй зямлі, паслужыўшы ў арміі, захапіўшыся сацыялістычнай ідэяй. Вядома, многія новыя аспекты канцэпцыі сялянскага жыцця былі б увасоблены ў мележаўскай эпапеі, калі б былі напісаны тыя раманы, якія выношваліся пісьменнікам, калі б лёс наканаваў яму пажыць да нашых дзён. Аднак прымусовая калектывізацыя, ліквідацыя кулацтва (якога ў той час ужо па сутнасці не было), масавыя рэпрэсіі маглі адбыцца толькі ў нас, у нашай адміністрацыйна - каманднай дзяржаўнай сістэме (дарэчы, шляхам нашай калектывізацыі не пайшлі ні ў адной краіне, нават у так называемых краінах сацыялістычнага лагеру). Знішчыўшы эканамічную аснову для кулацтва (перадзел зямлі), можна было даць магчымасць працаваць усім (Халімон Глушак таксама быў не так кулак, як вялікі працаўнік, а яго сын Сцяпан цягнуўся да новага жыцця, да адукацыі, свядома хацеў быць патрэбным чалавекам на сваёй зямлі, але яму не дазволілі).**

**Рэпрэсіі, раскулачванне выклікалі абурэнне і супраціўленне. І гэта можна зразумець. Ды і як было цярпець, калі ні за што, ні пра што сталінскія апрычнікі і паслушныя ім актывісты выганялі селяніна і яго сям'ю з хаты, забіралі ўсё дабро, нажытае яго мазольнымі рукамі...» «...Завошта ў яго адабралі ўладай дадзеную зямлю, майно і саслалі на катаргу? Завошта? У чым яго віна?» Гэта роздум героя аповесці В. Быкава «Аблава» Хведара Роўбы. Над гэтымі пытаннямі пакутавалі мільёны людзей. А маглі ж гэтыя роўбы быць апорай дзяржавы, маглі накарміць народ...**

**Сумленна, у працы жыў і Ян Кулеш з аповесці А. Жука «Праклятая любоў», Ігнат Сцяпанавіч з рамана А. Кудраўца «Сачыненне на вольную тэму». Аднак яны ўсё жыццё працавалі, а гаспадарамі не былі. Начальнікі, старшыня, брыгадзіры камандавалі імі, вучылі, панукалі, загадвалі... Як быццам яны былі батракамі на сваёй зямлі. Усе хацелі хутчэй іх канчаткова рассяляніць... А іх зямля ўсё ж не адпускала. З горыччу і болю ў канцы жыцця ўсклікне Кулеш: «Навошта праклаў бог і маці і яго любіць гэтую зямлю, усё аддаць ёй...» Што можа быць цяжэйшым для селяніна, каб сказаць такое... Назва аповесці А. Жука раскрывае важнейшыя складанейшыя сацыяльныя праблемы (любоў да зямлі, якая стала праклятай, бо не прыносіла шчасця), а не толькі пачуцці чалавечага кахання.**

Многія міфы ў літаратуры і крытыцы звязаны з тэмай Вялікай Айчыннай вайны. Пастаянна сцвярджалася, што літаратура аб вайне дасягнула найбольшых вышынь. Створана цэлая бібліятэка твораў аб гераізме народа, усенароднай партызанскай барацьбе. Пра іх напісаны салідныя манаграфіі.

Не прыніжаючы вялікага значэння гэтай літаратуры, сёння мы бачым і іншае — канцэпцыя вайны і чалавека яшчэ даволі аднабокая, трагічная праўда вайны, драматычнае становішча чалавека на акупіраванай тэрыторыі яшчэ не заўсёды раскрываюцца ў ёй. Толькі ў творах апошняга часу пачынае ўдзяляцца значная ўвага гэтым аспектам («Знак бяды», «Кар'ер» В. Быкава, «Голас крыві брата твайго» В. Адамчыка, «Вяртанне да віны» І. Чыгрынава, «Ахвяры» І. Шамякіна, «Хлопцы, чые вы будзеце?..» П. Місько, а таксама нядаўна ў нас апублікаваны раман М. Сяднёва «І той дзень прыйшоў»).

І перш за ўсё драматычнае становішча тых, хто жыў паміж гарнізонам і партызанскай зонай, на «нейтральнай паласе». Ноччу з'яўляліся так званыя мясцовыя партызаны, калацілі куфры, скрыні, забіралі ўсё (дзіцячае, жаночае адзенне, сувоі палатна, харчовыя прыпасы і інш.). Такія рабаўнікі і злачынцы ёсць у рамане П. Місько «Хлопцы, чые вы будзеце?..» (Канькоў), аповесці В. Гардзея «Жыта ганьбу не заслоніць» (Барабан) і іншых творах. Многія, займеўшы зброю, проста помсціліся за ранейшыя крыўды (напрыклад, Жэнік Рэпка ў рамане В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго», якога ніхто ніколі не паважаў). Прыходзілі партызаны, каб павесці з сабой жыхароў— перакопваць дарогі, раскідваць масты, спілоўваць тэлефонныя слупы. Аднак і яны часам пагардліва і строга адчытвалі: сядзяць людзі ў хаце, у цяпле са сваімі бабамі, а ім рызыкаваць, ваяваць, у лесе мерзнуць і галадаць...

А раніцай прыязджалі немцы з паліцэйскімі, грэзіліся расправіцца, нярэдка і каралі (як, напрыклад, у рамане В. Адамчыка) за сувязь з ляснымі бандытамі, прымушалі рамантаваць масты, закопваць равы на дарогах, ставіць новыя слупы, скародзіць дарогі, каб абясшкодзіць міны.

Прыгадваецца эпізод з рамана І. Чыгрынава «Вяртанне да віны», калі партызаны самасудам вырашылі пакараць вяскоўца толькі за тое, што той, калі заходзілі ў хату да яго паліцаі або партызаны, адкупляўся харчамі і разам з тым хітравата, па-сялянску, на ўсякі выпадак, браў з іх распіскі, каб іншым разам можна было апраўдацца, а партызаны знайшлі распіскі паліцэйскіх.

Дзе выйсце? Ісці да партызан? А жонка, дзеці? Сям'я стане заложніцай. Гэта сапраўды драматызм. Прыгадваюцца словы аднаго з герояў рамана А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі»: «Як было б нават салдату, калі б у акоп пасадзілі яшчэ і дзяцей яго!.. Я б баяўся глядзець на гэтага салдата». І гэта праўда. Лягчэй было вайскоўцам, што па волі лёсу апынуліся ў тыле ворага і ішлі да партызан. Выразаліся партызанскія сем'і, усё больш населенымі станавіліся сямейныя

партызанскія лагеры. Паліцэйскія і старасты вывозілі свае сем'і ў гарнізоны. Тэрор выклікаў тэрор. Бурліў крывавы вір. Гарэлі вёскі і мястэчкі. Шырыліся жорсткія, крывавыя блакады, лютавалі карнікі.

Раней літаратура славіла бацьку Міная, заклікала схіліць перад ім галовы, стаць на калені. Мы разумеем сапраўдны трагізм яго становішча. Але ж мы можам схіліць галовы і перад Марозам («Абеліск» В. Быкава), перад Андрэем Шэметам з рамана М. Лобана. Ваўчыца пойдзе на стрэл, каб абараніць сваё логава, сваіх дзяцей. Дык то ж звер, там жа інстынкт, а тут чалавек — разумны, гуманны. Як жа яму жыць далей, калі не зробіць ён крок да заложнікаў, хоць гэта крок і да гібелі, але ў імя вялікай любасці да заложнікаў, у імя чалавечнасці...

Драматычным быў лёс і тых, хто не па сваёй волі апынуўся між двух агнёў: без віны вінаватым аказаўся перад вайной за калючым дротам, а ў вайну выпадкова вырваўся і трапіў дадому. Для партызан ён быў ворагам народа. Ды ці толькі ён ці падобныя яму, хто вярнуўся з высылкі ці лагера? Асобыя аддзелы працягвалі свае справы, каралі, добра не разабраўшыся, віноўных, невіноўных, нават падпольшчыкаў, нашых разведчыкаў. Аб трагічных праявах такога чытаем у аповесці І. Шамякіна «Ахвяры» (асабіст Золатаў), згаданым рамане П. Місько (Канькоў), аповесці А. Жука «Праклятая любоў» (Беразоўскі). Па сутнасці і на акупіраванай тэрыторыі асабісты дзейнічалі, як на фронце, праводзілі рэпрэсіўныя карныя акцыі. Аповесці В. Быкава «Мёртвым не баліць», «Атака з ходу», «Яго батальён» па сутнасці распачалі гэту тэму. Гінулі невінаватыя людзі, гінулі роты, батальёны, наступаючы без падрыхтоўкі, без патрэбнай зброі, без вострай неабходнасці, каб кар'ерысты-службісты маглі рапартаваць аб вызваленні хоць якой пядзі зямлі (любой цаной, не шкадуючы людзей). Асабліва востра і балюча гэта праблема паўстала перад літаратурай сёння — аб гэтым новая аповесць-трагедыя В. Кандрацьева «Выкупіць крывёю», напісаная ў быкаўскай традыцыі.

Праўда, было нямала і такіх, якія супрацоўнічалі з фашыстамі, помсцілі тым, хто іх раскулачваў або пісаў на іх даносы, але былі і такія, якія не бачылі выйсця (раманы І. Чыгрынава, М. Сяднёва), бо яны разумелі, што калі вернуцца нашы, то іх зноў заганяць за калючы дрот... Шмат калізій і сітуацый, якія пачалі ўзнаўляцца сёння ў літаратуры і якія дазваляюць ёй паказаць сапраўдны драматызм часу, глыбіні чалавечых пакут.

Адным словам, сёння літаратура поўніцца антываенным пафасам, імкнецца да сапраўднай паўнаты ў паказе вайны як вялікай трагедыі ўсяго народа і асобнага чалавека.

Тут прыведзены толькі некаторыя прыклады, якія сведчаць, што літаратура часам па ідэалагічных, палітычных меркаваннях або абыходзіла некаторыя з'явы, факты ў гісторыі народа, або давала ім не зусім аб'ектыўную ацэнку, ідэалізуючы ці міфалагізуючы іх. Прыйшоў час, калі літаратура абавязана сказаць усю драматычную праўду пра лёс нашага народа, калі яна хоча быць мастацкім летапісам народнага жыцця, мець аўтарытэт, павагу і пашану сярод людзей.

**ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ**

# «Не веру, што песня спета»

Рэдка калі я пакідаю магазін «Кніжны свет» без пакупкі. Тут мяне найбольш цікавяць невялічкія кніжачкі. Гэта першыя спробы пяра пачынаючых паэтаў.

На гэты раз маю ўвагу прыцягнуў зборнік вершаў Яўгеніі Мальчэўскай «Залежнасць». Паэтэса лічыць сябе залежнай у жыцці ад усяго: ад людзей і надвор'я, ад сяброў і ворагаў, і нават ад шуму і гоману ляснога. І ў гэтай залежнасці яна бачыць сэнс свайго жыцця. Ці не так і ў кожнага з нас?

Некаторыя людзі наракаюць на старасць. Безумоўна, у кожнага чалавека яна свая. А вось Мальчэўская з гонарам заяўляе:

> Прымаю старасць, няўмольны
> дар,
> І мудрасці набытай і развагі,
> Калі жыццё сваё кладу
> на вагі.

З вышыні гадоў яна бачыць свае жыццёвыя поспехі і няўдачы, смела і ўпэўнена ідзе насустрач сваім гадам. Сталее разам з імі. Відаць, аўтар зборніка так захоплена жыццём, што яго явы — прыгожыя, лятуценныя — бачыць нават у сне. Гэта з «усмешкай маміны вочы», «вёдры з крынічнай вадой», нават «бульба і хлеб з малаком-сырадоем».

Лірычная гераіня — не эгаістка. Яна думае не толькі пра сябе, ёй уласцівы неспакой за лёс іншых людзей. «Хто ж за гэта мяне асудзіць?..» — пытае яна ў чытача. Лічу, што такіх не знойдзецца. Бо само наша жыццё прывучыла нас стаяць, перажываць адзін за аднаго.

Яўгенія Мальчэўская вельмі тонка адчувае пульс сучаснага жыцця. Яго рытм і арытмію ў розных праявах. Бо паэт жыве тымі ж клопатамі, што і кожны чалавек. Не цураецца чарнавой работы. Не перакладае яе на рукі і плечы іншых. Хіба можна без хвалявання чытаць верш «Залатая мяцеліца»? У ім вобраз чарадзейкі залатой восені. Тут і адлёт жураваў у вырай, і сеткі павучыных антэн. І, вядома, «залатая мяцеліца ад бяроз і дубоў».

Калі восень вабіць паэтэсу чырвоным колерам рабін, то лета яна не ўяўляе без навальніцы. Няхай яна прыходзіць з громам і трэскам, няхай расколваецца неба на дзве палавіны. Ды за ўсім гэтым яна бачыць нараджэнне новага ў прыродзе. Расце і зелянее «хлеб надзённы», і «радасць і шчасце, што ў вечных трывогах».

У асобную нізку сабраны вершы, прысвечаныя самаму дарагому і роднаму чалавеку —маці. Той маці, у якой удзень і ўночы баліць сэрца за дзяцей, за іх лёс. У такіх вершах і ўдзячнасць, і выбачэнне за тое, што «ляглі маршчыны ў мамы каля вачэй».

Са зместу зборніка, асобных яго вершаў вынікае, што пісала іх настаўніца. Бо толькі ў душы настаўніцы могуць, мне так здаецца, нарадзіцца такія радкі:

> У сабе мову дзіўную,
> матчыну
> Як таемнасць нашу.
> Абуджаю Купалавай
> спадчынай
> За душою душу.

Яўгенія Мальчэўская ўмее ажыўляць з'явы прыроды. У яе вершах нават вецер набывае рэчы жывой істоты. Нібы да чалавека звяртаецца яна з папрокам да ветру:

> Куды ты, вецер, такі халодны?
> Няўжо ты чорных нагоніш
> хмараў?
> Хіба так мала было ахвяраў?

Верш «Роздум» — аб складанасцях сямейнага жыцця, якое рушыцца часам з-за дробязей, калі

> Пакідаюць паасобку
> Людзі блізкіх легкадумна,
> Родны бераг і гняздоўе,
> І маленькіх птушанят.

Гэтая, здавалася б, прыватная праблема вырастае ў праблему агульначалавечую.

У зборніку ёсць некалькі сумных вершаў. Напісаны яны, відаць, з прычыны нейкіх асабістых жыццёвых няўвязак. Але паэтэса, як і яе лірычная гераіня, умее ўзяць сябе ў рукі. У вершы «Дарога была чорнай» яна сцвярджае сілу свае волі, бярэ верх над часовай разгубленасцю:

> Не веру, што песня спета,
> Проста сарваўся голас.
> Наступіць новае лета,
> Выспеліць новы колас.

Тут, пэўна, пад новым коласам Яўгенія Мальчэўская разумее свае новыя творчыя здабыткі ў паэзіі. Дык хай яны будуць.

**М. ВАЛЬКО.**

г. Нясвіж.

# Расколіна, якая бароніць

Балючае адчуванне барацьбы асобы з дысгармоніяй свету адчуваецца ў зборніку вершаў Алега Мінкіна «Расколіна» («Мастацкая літаратура», 1991).

Расколіна свядомасці, якая абстрагуецца ад навакольнага быцця. Расколіна, якая робіцца мяжой паміж «Я» вечным, што вандруе разам з душой, пераважае над смерцю і небыццём, з тым «Эга», якое ствараецца ў кожнага чалавека пад уплывам рэчаіснасці і недасканалага наваколля.

Калі на «памяці думках пачуццях іржа» і «Як звер зацкаваны збягае душа ў зыркія бляскі неонавых пасмаў» («Адлюстраванне»), узнікае жаданне выратавацца ад свету лжывых гукаў і фарбаў:

> О, не запальвай горад сонны,
> Свае зіхотныя агні —
> Хай цьміцца вечнае сутонне
> У сховах вечнай цішыні;
> Хай не крануць ніколі слыху
> Ні шоргат шын, ні тупат ног...
> Я тут адным каханнем дыхаў,
> Але й кахання не зберог.

Лепей пустэча, чым дрыгва бессэнсоўнасці: «Лепш ужо на аўтастраду легчы плазам, хай мяне колы здратуюць», ці «Звар'яцелы ад тугі хапаю іскрыстую кветку электрадугі!». Але жаданае супакаенне не надыходзіць. Выслабаненне ад свету рэчаў перайшло ўзровень, калі навакolле ўжо не можа знішчыць асобу, як плоскасць не можа пашкодзіць аб'ёмнай фігуры: «Лёг, а машыны праз мяне прастуюць як праз воблака выхлапнога газу», і «кветка электрадугі... не сляпіць вачэй і далонь не пячэ» («Балада пераўтварэння»).

У такім становішчы, калі, здаецца, нішто не можа зварухнуць, калі ты быццам паралізаваны пакінуўшымі тваю істоту пачуццямі, мёртвая прырода робіцца чымсьці блізкім, узнікае духоўная еднасць з тым, што таксама паралізавана і нерухомае: «Шэры валун, ты мне — першы сваяк: сам я штодзень усё больш камянею» («Валун»).

Калі немагчыма спазнаць спакой, які можа прыйсці, то застаецца магчымасць памятаць спакой, які быў «...І саграваўся думкаю аб тым, што я яшчэ на свет не нарадзіўся» («Насланнё»). «Данараджэнне» і нерухомасць прыроды ўступаюць у сінтэз, які стварае якасна новы пласт жыцця, увасоблены ў гліне. Гліна як біблейская субстанцыя, з якой створаны чалавек: «Здзіраю з сябе гліну... шукаю сваё сапраўднае аблічча».

Але працэс пашырэння свядомасці, пераходу на больш высокі ўзровень, чым мела ранейшае «Эга», звышскладаны. Абуджэнне касмічнага «Я» са шматгадовага сну мае сваю функцыю ў пашырэнні ўплыву на рэчаіснасць. Гэта зерне, якое пачынае ўбіраць у сябе элементы несвядомага хаоса, і, будуючы з іх сваю плоць, арганізуе часткі бессістэмнасці і робіць вялікую і ўсеагульную работу па гарманізацыі сусвету, пашырэнні яго духоўнасці. Шлях сапраўды звышскладаны, і першыя інтуітыўныя намёкі на яго праследжваюцца і ў «Трыпціху», а таксама ў вершы «Вецер і дрэва»:

> ...Навошта нашэптваеш мне
> пра збавенне
> У вырaі светлым ад горкіх
> пакутаў,
> Калі я так моцна глыбокім
> карэннем
> Да грэшнай зямлі быццам
> вязень прыкуты?

Далейшы рух падымаецца на новы віток спіралі, які бачны ў паэме «Апошняе прадказанне Белабога». Тут адкрыта і моцна пачынаюць выступаць ідэі дабра і сілы, якія ўвасабляюцца ў вобразе Белабога. Ён першы і апошні, дае пачатак і робіць выснову, ён апірышча ў царстве, якое распадаецца. Ён кажа «...у краі, куды ніхто не дайшоў, у краіне жоўтых і белых гарлачыкаў, вольны сярод вольных, ты будзеш смяяцца з усяго, што некалі балюча крыўдзіла!» Так расколіна, прайшоўшы ў светаўспрыманні асобы, падзяляе ў ёй Белабога і Чарнабога і ператвараецца ў пастаянную мяжу. Яна бароніць ад Чарнабога і дазваляе асобе трапіць у краіну «жоўтых і белых гарлачыкаў» і, атрымаўшы свабоду, «смяяцца з усяго, што некалі балюча крыўдзіла».

**Алесь ТУРОВІЧ,**
**студэнт.**

# Незамутнёная крынічка

Вырашыў напісаць водгук на зборнік паэта Міколы Чарняўскага «Аб чым пяе крынічка», які вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Адразу скажу, што з радасцю сустрэў гэтую навіну нашага літаратурнага жыцця. Перш за ўсё ўсцешыла тое, што нарэшце лаўрэатам высокай літаратурнай прэміі — прэміі твораў для дзяцей — можа стаць прафесійны пісьменнік, зборнік якога разлічаны менавіта на дзіцячую аўдыторыю. Чамусьці ў апошнія гады Дзяржаўныя прэміі ў адпаведнай галіне прысуджаліся творам, якія з вельмі вялікай нацяжкай можна было аднесці да твораў дзіцячых.

Вершы і казкі Міколы Чарняўскага, сабраныя ў зборніку «Аб чым пяе крынічка», адметныя тым, што лёгка ўспрымаюцца дзецьмі. Паэт нібыта не піша, а вядзе з малымі шчырую гаворку, як, напрыклад, у вершы «Мы палолі бурачкі...» (узяў першы, што трапіўся на вочы):

> Чэрвень рупнай перапёлкай
> Папярэдзіў —
> Самы час!
> — Заўтра выйдзем
> На праполку:
> Бурачкі
> Чакаюць нас.

Мікола Чарняўскі піша без аніякага фальшу: лёгка, без усякага напружання, быццам майскі дожджык, льецца радок за радком, складваючыся ў вясёлую песеньку.

Што дапамагае паэту пісаць так непасрэдна, натуральна? Найперш высокі прафесіяналізм і ўпартая работа над кожным радком. Калі б паэт не адносіўся ашчадна да кожнага слова, то, вядома, не стварыў бы ўсяго ў чатырох радках запамінальнага мастацкага вобраза, як гэта бачна ў вершы «Рыбакі»:

> З тыдзень лужына была —
> Цэлая лагчынка.
> Ды яна ўзяла сплыла —
> Стала аблачынкай.

Шмат дапамагла пісьменніку праца ў нашых дзіцячых часопісах — «Бярозцы» і «Вясёлцы». Шмат гадоў ён працаваў і працуе з дзецьмі і для дзяцей.

Колькім пачынаючым паэтам і празаікам, якія сёння ўжо сталі знакамітымі літаратарамі, дапамог ён трывала стаць на ногі!

Думаецца, што тым, каму наша маладая дзяржава Беларусь даверыла прысуджаць Дзяржаўныя прэміі, трэба звярнуць увагу і на гэтую акалічнасць: самаадданую работу паэта з творчай моладдзю. Нехта запярэчыць мне: «Але ж трэба ацэньваць мастацкую вартасць кнігі». Безумоўна. Гляньце, як па-майстэрску пабудаваны дыялогі (казка «Жыў-быў лісток палахлівы», вершы «Любай», «Цымбалы» і іншыя). А колькі светлага, трапяткога гумару ў яголых вершах «Дзе веды носяць?», «Сачыненне», «Пабягуха», «Гоц ды гоц...»! Хіба гэта не сведчанне сапраўднай творчай сталасці літаратара?

**Аляксей ЯКІМОВІЧ,**
**настаўнік,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

г. Слонім.

**Алег САЛТУК**



## Манкуртам

Вось так:
Нас ужо і няма.
Няўжо, не было і Скарыны!!
Якая нас з'ела чума,
Калі, хто і дзе нас адрынуў!
Мы «дзекаем», «цекаем» мы.
Літоўцы мы, эсты, палякі.
Бязмоўны народ і нямы —
Ну, проста народ аніякі!
Манкурты, бяздомныя мы,
Галінка ад кроны Расеі,
Прыйшлі, нібы з нейкай турмы,
І на Беларусі пасеілі.
Расказваць гісторыю вам —
Усё роўна, што з мёртвымі біцца.
Па вас — не расці і трава,
А вам — добра есца і спіцца.
Няма фарысейству мяжы.
Вы з пуду, панове, вы з пуду:
Распяты Хрыстос на крыжы
Ніколі не быў бы без Юды.

## Сучасная замалёўка

Вось франтавік ідзе
У магазін чагосьці.
— Пастой, дзед, у чарзе!—
Яму адтуль са злосцю.

Бязвусы дурняло
І без чаргі ухопіць.
Хоць розум адняло,
Мазгоў на гэта хопіць.

Урваць, перапрадаць
У пяць разоў дарожай...
Хапаць—не працаваць.
Рабіць што будзем, божа!

Павага да старых,
Увага да слабога —
Забіта ўсё пад дых.
І зноўку не да Бога.

Сумленных час прайшоў,
Настаў час прайдзісветаў:
Усё — для гандляроў,
Нічога — для паэтаў!

## Аб незалежнасці

Алесю ЖЫГУНОВУ.

Скрозь совы і сычы,
А ты зязюлю чуеш...
Гарланяць крумкачы
Там, дзе і заначуюць.

Як радасна крычаць
Яны ў бары высокім
У неба на вачах
Пад засенню аблокаў.

Ім — баль сярод чумы
І на касцях — пахмелле...
Абгаладалі мы
І душамі скалелі.

Ва ўладзе крумкачы —
Уедна ім і ўлежна...
Маўчы, браток, маўчы,
Хоць ты і незалежны.

## Грахі

Памаліўся і спаць заваліўся.
Дзень прайшоў, заўтра будзе другі.
Толькі сон сярод ночы згубіўся
І сышліся тугі берагі.

Усявышні!
Навошта ты ў цела
Удыхнуў мне такую душу,
Каб яна нават ноччу смылела
Ад пытання:
— Навошта грашу!

А грахі мае вельмі цяжкія:
Дома ўжо колькі тыдняў не быў.
І шкадую, што бацька мой кіем
Мяне некалі не вучыў.

На прыпынку штурхнулі жанчыну.
Змоўчаў я, бо маўчаў і натоўп...
Сцерпеў словы бязглуздыя сына:
— Пасля нас, татка, хоць і патоп!

У кнігарні абразілі мову,
Старажытную мову маю.
Паўшчуваў, толькі што мае словы
Спекулянту ці халую!

Ноч стаіць без канца і без краю.
— Грэшны ты!—
У ёй чуецца крык.
Я не сплю, я сябе праклінаю
І ў грудзіну ўпіваецца крыж.

## Агеньчык

Непазбыўнай памяці мамы

Той агеньчык у полі далёкім
Мне бліжэй, чым ліхтар нада мной...
Суцішаючы шпаркія крокі,
Я за грудзі схаплюся рукой.

Прыпынюся, знямею, застыну —
Хоць бы вытрываць сэрца змагло!
Мама, быў табе любячым сынам
Я, як там яно ўсё б ні было.

Я люблю твае рукі пяшчотна,
Да маршчыначкі стомлены твар.
Быў шчаслівым, сягоння — гаротны,
І гняце, нібы камень, цяжар.

Мы спявалі з табою калісьці.
Лёс парваў дарагую струну.
І пясок і калючае лісце
Увесь свет замялі і труну.

Ды застаўся агеньчык далёкі,
Што зацепліла ты для мяне.
Я іду на яго адзінокім
І чужым у сваёй старане.

## Спадзяванне

Засталося толькі спадзявацца,
Што жыццё пражыта нездарма.
Ужо з гакам два разы па дваццаць —
Неўзабаве шугане зіма.

Неўзабаве.
Вёсны адзвінелі
Жаўранкамі ў небе нада мной,
Жураўлі ў кастрычнік паляцелі
І матуля — у зямлі сырой.

Страчана такое дарагое!
Пацішэў у жылах шал крыві.
Зарастаюць шэрай лебядою
Сцежкі і надзеі, і любві.

І адно, напэўна, засталося
Без яго няма чаго і жыць —
Дачакацца, хоць бы так збылося:
Жніўны ранак, жытняе калоссе
І насустрач мой унук бяжыць.



Фота Аляксея МАЦЮША.

**Аляксандр СОКАЛАЎ**

# ВАЎЧАНЯ



**Апавяданне**

Аляксандр СОКАЛАЎ — лётчык беларускай ваенна-транспартнай авіяцыі. Родам ён з Варонежскай вобласці, мае тэхнічную адукацыю. Служыў у Афганістане. Апавяданне «Ваўчаня» — яго першая публікацыя ў рэспубліканскім друку як празаіка.

— Ура! — крыкнуў Паўлік і кінуўся да машыны. Апошнім разам гэты дзядзька, што прыязджае да ягонай маці, дазволіў сесці ў кабіну. Яны тады ездзілі вакол інтэрната, Паўлік нават спрабаваў руляваць. Сябры, вядома, усё гэта бачылі.

Цяпер ён не паспеў, дзядзька ўжо схаваўся ў пад'ездзе.

Паўлік жыў з маці ў маленькім пакойчыку, у інтэрнаце, другі пакой займалі маладыя з дзіцем. У прыхожай заўсёды целяпалася мокрая бялізна, нават летам палаў рэфлектар. Паўлік, каб не разбудзіць малога, ішоў да сябе ў пакой на дыбачках, але, як на тое, абавязкова за што-небудзь чапляўся. Тут на табурэце стаіць электраплітка. Лямпачка ў прыхожай ніколі не гарыць, затое чырвоныя спіралі рэфлектара зззяюць штучным вуголлем — не наскочыш. Цётка Света, суседка, ніколі не сварыцца, пачуўшы грукат, але маці... «Во дзе нядбайлішча! Во ваўчаня!» — крычыць кожны раз. Фёдар, сусед, таксама ніштo сабе дзядзька. Ды такі вяліказны! Як толькі змяшчаецца ў сваім пакойчыку, цётка Света побач з ім — проста дзяўчынка.

Паўлік неяк бачыў: Фёдар трымаў Святлану на руках высока, пад самай столлю, а тая толькі пішчэла, як маленькая...

Хлопчык хуценька прабег каля дзвюх немаладых жанчын-вахцёрак. Яны, гледзячы тэлевізар, кідалі позірк і на дзве-

## Народны дом у Венісьё

У Францыі, акрамя прэстыжных, якія маюць вялікую гісторыю, дзяржаўных устаноў культуры, ёсць яшчэ і народныя дамы, прызнаныя асяродкі духоўнага жыцця. Яны нечым нагадваюць нашы палацы і дамы культуры, але сам змест іх работы і падобны, і ўсё ж інакшы. Гэтыя дамы пачалі ўзнікаць на хвалі народнага і прафсаюзнага руху яшчэ ў канцы трыццатых гадоў. Іх станаўленню і развіццю дапамагла дэцэнтралізацыя культурнага жыцця, якая працягваецца і сёння. Асабліва папулярныя народныя дамы ў рабочых гарадах і раёнах.

Наведаць такі дом у горадзе Венісьё нам прапанавала Арлет Кавіён. І вось яго дырэктар Арманд Сум запрашае на экскурсію па будынку.

— Да 1937 года тут засядалі мясцовыя камуністы і прафсаюзныя дзеячы. Як і належыць,— жартуе Арманд,— камуністы былі ў левай, а прафсаюзы — у правай палавіне. А затым пачаў працаваць народны дом. Кожны, хто прыходзіць да нас, можа тут знайсці сабе занятак: музыка, спевы, танцы, мадэляванне, выяўленчае мастацтва і многае іншае. Праводзім святы, вечары, арганізоўваем прагляды кінафільмаў, мастацкія выставы, конкурсы. Надзвычай папулярны наш тэатр. Поруч з самадзейнымі акцёрамі на нашай сцэне выступаюць і прафесіяналы, у якіх няма свайго пастаяннага памяшкання. Яны прыязджаюць да нас з розных рэгіёнаў Францыі. Напрыклад, зараз працуе трупа з Грэнобля, якая ставіць спектакль «Берлін. Танцоўшчыца і смерць». Твор філасофскі, прасякнуты гуманістычнымі ідэямі. Рэпетыцыя пачалася, але мы можам зайсці ў залу.

Паціхеньку прабіраемся па праходзе, сядаем і асвойваемся ў паўзмроку. На сцэне — тыповая невялічкая берлінская вуліца з яе маленькімі ўтульнымі кавярнямі і рэстаранчыкамі, што поўняцца гаманою, вясёлым смехам. Ля іх прахоўджваюцца экстравагантныя прадстаўніцы самай старажытнай прафесіі. Падлеткі збіліся ў гурт на рагу вуліцы і нешта горача абмяркоўваюць. Бачна, што дзеянне адбываецца адразу пасля вайны: па беднаватай вопратцы герояў спектакля, па іншых бытавых дэталях. А затым глядач пераносіцца ў перадваенныя гады, у берлінскі вышэйшы свет з усёю ягонаю атрыбутыкаю. Дзеянне надзвычай рухомае, сцэны мяняюцца, як малюнкі ў калейдаскопе...

Пасля рэпетыцыі разам з рэжысёрам Мішэлем Дзібільё (ён заняты ў спектаклі і як акцёр) і акцёрам Малікам Фарон ідзём у кабінет дырэктара народнага дома. Супрацоўніцы прыносяць нам каву, печыва. Мішэль просіць яшчэ шклянку аранжу з лёдам, стомлена ўсміхаецца: «Сёння была вялікая нагрузка. Горла села». Пакуль Мішэль і Малік, як кажуць, «астываюць» пасля напружанае працы, Арманд Сум расказвае:

— Венісьё — рабочы горад, але тут жыве і працуе шмат настаўнікаў, урачоў, супрацоўнікаў розных устаноў, якія ахвотна наведваюць наш тэатр. У нас вельмі ўтульная, з добрай акустыкаю зала. Людзі рэгіёна прывыклі да тэатра, лічаць яго сваім. Ды і білет у нас каштуе 85—120 франкаў, а ў дзяржаўных тэатрах у два разы болей. Многія жыхары горада набываюць абанемент на ўвесь тэатральны сезон. Мы пастаянна выпускаем буклеты, у якіх расказваем пра пастаноўкі, іншую рэкламную прадукцыю. Яна разлічана на жыхароў больш аддаленых раёнаў, цікавасць якіх да тэатра яшчэ трэба заваяваць. Заўважаем, што ахвотней людзі ідуць на класіку. Калі ставім Мальера — зала заўсёды поўная.

Да гаворкі падключаецца Мішэль:

— Так, класіка прымаецца добра. Ды і працаваць з ёю надзейна: меней рызыкі, болей збору. Хочаш мець грошы — звяртайся да класікі. Затое ставіць сучасную п'есу цікавей. Тут і пошук, і спрэчкі, і дыскусіі, і ў канцы — вялікая радасць ад зробленага.

Пытаю ў Мішэля, як выйшлі на п'есу «Берлін. Танцоўшчыца і смерць», чаму выбралі менавіта яе? Мішэль тлумачыць:

— Я працую ў кансерваторыі. П'есу прынесла мая вучаніца. Прачытаў адзін раз, другі. Спадабалася. Рашыў, што можна рызыкнуць. Вы ўбачылі, што дзеянне адбываецца ў Германіі. Спектакль расказвае пра жыццё спявачкі і танцоўшчыцы Грэйт Шулер, якая ў трыццатых гадах мела вялікі поспех у берлінскім вышэйшым свеце, з ягонымі бясконцымі любоўнымі інтрыгамі, прыхамацямі, капрызамі і дзівацтвамі. За ўсім гэтым яна не заўважыла, што стала правадніком фашысцкай ідэалогіі, не здагадалася, што паклала сваю галаву ў пашчу ваўка.

У спектаклі — філасофскае асэнсаванне таго часу, роздум пра тое, які ўплыў маюць ідэі нацызму на будучыя пакаленні. Пятнаццаць яго частак імкліва змяняюцца, як кадры кінафільма,

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

# ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

Працяг. Пачатак у №№ 30—32.

ры. На Паўліка — аніякай увагі, ён і ростам ледзь вышэйшы за стол, тут, у інтэрнаце, шмат такіх, няхай сабе пасьвяцца.

Ліфт не працаваў, і Паўлік скочыў на лесвіцу. На павароце так крутануў, што таўхануў галавой у жывот тоўстую цётку. Тая верадліва закрычала:

— А каб цябе немач, чарцяня!

Паўлік, як віхор, уварваўся ў пакойчык, прагна агледзеў стол, там стаялі бутэлькі, некалькі талерак. Падскочыў, узяў плітку шакаладу.

— А папрасіць не трэба? — крыкнула маці.

Дзядзька схамянуўся і прывітаўся:

— Паўлік! Здароў! Як жызня?

Хлопчык не адказаў. Ён разглядваў стол. Убачыў апельсін. Запытальна паглядзеў на дзядзьку.

— Бяры, бяры...

— Пайшоў вон! — прыгожы матчын твар як падмянілі, заўсёды, калі яна моцна злавалася, верхняя губа не закрывала зубоў.

— Ліза! — спрабаваў яе суцішыць госць, але яна выразна зіркнула ў ягоны бок.

Паўлік знік умомант. На вуліцы пачаставаў сяброў апельсінам, а шакалад, які не любіў,— аддаў увесь.

Час ляцеў, стала цямнець. Адусюль, з вокан, з дзвярэй, даносілася:

— Алесь! Дамоў! Коля! Зіна!

Паўлік ведаў — яго не паклічуць. Ісці дамоў не хацелася. Пэўна, у пакоі накурана, дымна, як у коміне... Маці пакладзе яго пад коўдру, а сама зноў да стала. І зноў будзе моцна смяяцца.

Адзін раз Паўлік прачнуўся, пачуўшы ў цемры нешта незразумелае. Ложак маці скрыпеў, яна жалобна стагнала, плакала.

Ён хацеў закрычаць, пазваць яе. Голас прапаў. Нема праляжаў з шырока адкрытымі вачыма, пакуль усё не сціхла.

У другі раз Паўлік бачыў дзядзьку пры святле, распранутага, той ляжаў у матчынай пасцелі. Чаго ён тут разлёгся? Хіба няма свайго дома?

...Хлопчык павольна плёўся па лесвіцы, лічыў сходкі. Вось і сёмы паверх. «А можа, ён ужо пайшоў?»

Маці сустрэла яго ўсмешкай, стала дапамагаць распранацца, не перастаючы размаўляць з госцем:

— Ты думаеш, Наталля на свае так моднічае? Я ведаю ўсе ейныя хітрыкі... Сучка!

Яна весела пляснула сына па спіне, і Паўлік пайшоў ужо ў адных трусах у душ. Дзядзька Фёдар заўсёды мацюгаецца, калі сюды заходзіць. А Паўліку хопіць месца. Ён ніколі такім вялікім не вырасце. Навошта? Ён паднатужыўся, пераставіў міску, дзе плавалі ў вадзе паўзункі малога суседа, уключыў кран і доўга, як пад дажджом, стаяў, азіраўся, лавіў струменьчыкі, гуляў.

Вярнуўся ў пакой з ручніком праз плячо. Дзядзька трымаў у руках млын-ліхтар, змайстраваны з адных запалак.

— Мужычок мой зрабіў... калі лячыўся ў ЛТП, — сказала Ліза.

Дзядзька заспяшаўся паставіць цацку на месца, быццам была яна гарачая. Маці дастала з шафы піжаму, кінула на засланае крэсла-ложак:

— Апранайся і спаць!

Паўлік і не думаў класціся, узяў кніжку, разглядаў малюнкі.

Адчыніліся дзверы. Без стуку ўвайшла цётка Наталля, як заўсёды, у халаце, бігудзі на галаве. Востранькімі вачыма агледзела пакой, кінулася да Лізы:

— Лізка! Як з'ездзілася? Як там на югах? Чаго не зайшла? Я табе нештачкі дастала...

— А-а-а, — вяла адазвалася маці. — Я табе таксама падаруначак прыдбала...

Яна ўзяла нешта з паліцы, рэзка тыцнула госці ў самы твар. Цётка Наталля ўскрыкнула, з жахам падалася назад. У руках у Лізы звівалася, віжавала чорная з бліскучым жыватом гадзюка. Пашча прыадкрыта, з яе тырчэла тонкае джала.

— Што, падабаецца? — задаволена смяялася Ліза.

— Ты сама вылітая гадзюка... — апрытомнела цётка Наталля.

— Садзіся за стол, — не раззлавалася гаспадыня на такое параўнанне.

Паўлік бачыў, як маміна сяброўка падносіць да вуснаў стограмовік, крывіцца дзеля прыліку. Потым, забыўшыся зусім пра дзядзьку, сяброўкі абмяркоўвалі апошнія навіны інтэрната. Госць сядзеў у пакоі, забыты імі, бы непатрэбная мэбля, якую, пэўна, ужо вырашылі вынесці. Белая кашуля з гальштукам, чыста паголены твар; ён зрэдку пазіраў на Паўліка, быццам вінаваціўся. Падышоў, падняў з падлогі ягоную піжаму.

Можа, апоўначы толькі пайшла ад іх цётка Наталля. Задаволена ўсміхаючыся, несла ў руках маленькае цельца гадзюкі, ужо смакуючы ўцеху ад таго, як удасца напужаць суседак.

Ліза зашпільвала піжаму сына, адчуваючы ягоны настойлівы позірк. Хлопчык, вымыты і цёплы, ледзь улоўна пах сунічным мылам. Зашпільваючы апошні гузік, яна падалася да сына, каб цмокнуць у шчаку... і адхіснулася, ускрыкнуўшы ад болю.

— Ваўчаня! — закрычала маці.

Дзядзька спакойна наглядаў, як Паўлік скача на ложку і крычыць:

— Ага! Вось табе! Вось табе!

Ліза падбегла да люстэрка, потым да шафы, выцягнула тонкую папругу. Дзядзька стаў перад ёю:

— Ліза, перастань!

— Хто ты тут такі?— залямантавала маці асіплым голасам. — Хто ты такі, я цябе пытаюся? Прэч адсюль, жаніла!

Біла па плячах, па галаве. Паўлік круціўся, закрываўся рукамі, падвываючы: «І не баліць... І не баліць...» Дзядзька нарэшце выхапіў у маці папругу, кінуў у роспачы на падлогу, пайшоў. Маці ніц павалілася на ложак, заплакала.

На парозе з'явіўся дзядзька Фёдар. З-за яго спіны трывожна выглядвала цётка Святлана. Ён важка прайшоўся па пакоі, моўчкі сеў да Лізы.

Паўлік знерухомеў. Ягонае худзенькае цельца сціснулася ў камяк, ён насцярожана глядзеў на дарослых.

У маленькіх, халодных вачах не было шкадавання...




На здымку (злева направа): Любоў ЧАРНОВА, Арлет КАВІЕН, Міхась САВІЦКІ, Марк МАНТЭЗІН, Тэрэза ХАОНД, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Моніка ПЕРЫН, Пётр ВАЛКОВІЧ — у Мінску, на ўрачыстасцях, прысвечаных Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Фота А. КАЛЯДЫ.

дзеянне з пасляваенных гадоў перакідаецца ў трыццатыя, і наадварот.

Малік Фарон дадае:

— Мы свабодныя ў сваім выбары. І гэты спектакль ставім не толькі з-за тэмы. Падабаецца аўтар, стыль, мова п'есы. Змаглі скарыстаць у спектаклі ранейшыя напрацоўкі. Ёсць цікавыя знаходкі ў мастацкім афармленні. Мне здаецца, што дэкарацыі ўдалыя. Скажам, са сцяною атрымаўся даволі эфектны паварот...

Драматычны тэатр ніколі не быў прыбытковы. Ва ўсіх краінах, ва ўсе часы ён карыстаўся падтрымкаю дзяржавы, мецэнатаў. Мяне цікавіць, на якія сродкі жывуць сёння тэатры Францыі?

Мішэль усміхаецца:

— Мастацтва — надта патрабавальнае стварэнне, яно паглынае многа грошай. Усё ўпіраецца ў сродкі. Мы раней, наслухаўшыся вашых прапагандысцкіх фальшывак, думалі, што СССР на руках носіць культуру, а вы лічылі, што ў Францыі ўсё выдатна. Цяпер пераканаліся — рая для культуры няма ні там, ні тут.

А канкрэтна становішча такое. Скажам, «Камедзі Франсэ», іншыя дзяржаўныя тэатры маюць гарантаваную падтрымку. Але ёсць трупы, у якіх няма ні памяшкання, ні пастаянных паступленняў. Мы — той выпадак.

Возьмем, напрыклад, падрыхтоўку гэтага спектакля. У ім занята 18 акцёраў з Грэнобля, Парыжа, Ліёна. Падбіралі доўга. Ды і сам спектакль цяжка даўся — два гады камерцыі і толькі тры месяцы творчай працы. Усе мы зараблялі грошы, бо таго, што выдзеліла Міністэрства культуры і мясцовыя ўлады, не хапала. Наогул, дарагія спектаклі ставіць вельмі рызыкоўна. Залезеш у доўг — плаці са сваёй кішэні. А гэта бывае даволі значная сума. На выплату пойдзе і машына, і ўласны дом. І ты можаш апынуцца ў іншым жыцці. Але, як той казаў, рызыка — высакародная справа.

Малік дапаўняе калегу:

— Пастаянны, дзяржаўны тэатр мае зусім іншую структуру, лад жыцця. Мы ж хочам быць на свабодзе. А свабода патрабуе ахвярнасці.

Гэты спектакль не будзе стратны. Думаем, што прададзім яго іншым тэатрам. Сёння па тэлебачанні пракруцім рэкламную троххвілінную стужку. Запрасілі на прэм'еру «разведчыкаў», пасрэднікаў. Пашанцуе — закупяць і за мяжу.

Разважаем пра нялёгкую долю творчага чалавека. Даведваюся, што 80 працэнтаў французскіх акцёраў — без пастаяннай работы. Ды і тэатр не можа пракарміць. Даводзіцца шукаць нейкі пабочны заробак на радыё, тэлебачанні, а то і выконваць звычайную фізічную працу. Грошы ў Францыі, хоць тут і шмат беспрацоўных, зарабіць можна, былі б толькі жаданне і час. Але ж творчым людзям хочацца займацца не абы-чым, а любімаю, сваёю справаю.

Мішэлю і Маліку яшчэ пашанцавала, абодва працуюць выкладчыкамі кансерваторыі (дарэчы, яна выпускае не толькі кампазітараў, музыкаў, але і акцёраў), маюць пастаянны заробак. Але тэатр для іх — не хобі, яны адданыя яму ўсім сэрцам. Іх добра ведаюць у многіх тэатрах Францыі, запрашаюць удзельнічаць у спектаклях.

Мішэль глядзіць на гадзіннік і кажа:

— Хацелася б яшчэ пагаманіць, але не можам. Дзяржава хоча скасаваць дапамогу тэатральным работнікам, якія часова не працуюць. Наша трупа сёння будзе ўдзельнічаць у маніфестацыі. Праз паўгадзіны едзем у Ліён, каб падтрымаць сваіх калегаў.

Я кажу Мішэлю: «Ну, вось вы паставілі добры спектакль. А што далей? Гэты ўдала сабраны ансамбль акцёраў распадзецца?»

Ён паціскае плячыма:

— Не ведаю, як будзе. Пэўны касцяк трупы захоўваецца пастаянна, але і мяняюцца часта акцёры. У наступным спектаклі могуць з'явіцца і новыя людзі. П'еса на прыкмеце ўжо ёсць. А гэта азначае, што зноў будуць клопаты: разлічыць, скласці каштарыс, выбіць грошы ў Міністэрстве культуры, муніцыпалітэце. Магчыма, нешта падкінуць мецэнаты. Словам, жыццё працягваецца.

Мішэль і Малік развіталіся і пайшлі, а мы гутарым далей з дырэктарам, які паказвае планы работы народнага дома, дзеліцца сваімі думкамі пра перспектывы развіцця культуры ў горадзе. А ў канцы гаворкі Арманд кажа:

— Ва ўсім свеце лічаць, што Францыя — гэта краіна высокаадукаваных, культурных людзей. А вы ведаеце, што, згодна статыстыкі, з трох французаў толькі адзін чытае кнігі? Я ўжо не кажу пра тэатр, музеі, мастацкія выставы.

На культуру выдзяляецца звычайна адзін працэнт дзяржаўнага бюджэту. Гэта даволі значная сума, калі ўлічыць высокі эканамічны патэнцыял Францыі. Але ўкладваюцца грошы нерацыянальна. Напрыклад, больш за мільярд франкаў было выплачана інстытуту па даследаванні і каардынацыі акустычнай музыкі, які ўзначальвае вядомы кампазітар П'ер Булез. А музычнымі эксперыментамі гэтага інстытута цікавіцца ў Францыі самае большае 15—20 чалавек. Шмат грошай паглынаюць розныя асацыяцыі, клубы, таварыствы. Гэта элітарныя аб'яднанні, якія не падымуць агульны культурны ўзровень народа. Неабходна падтрымліваць дзяржаўныя ўстановы, якія нясуць сапраўдную культуру. З людзьмі трэба болей працаваць і ў такіх народных дамах, якія прымаюць усіх, дзе можна не толькі слухаць, глядзець, але і самому ўдзельнічаць у стварэнні пэўных духоўных каштоўнасцяў, не быць проста спажыўцом...

Чакаючы машыну, ходзячы па скверы, куды мы выйшлі, каб дыхнуць свежага паветра, я думаў і параўноўваў. Канешне ж, як сказаў Мішэль Дзібільё, рая для культуры няма і ў іх. Ды ўсё ж, хоць і няпроста, але ягоная трупа жыве, ён ставіць спектаклі.

А дзе ў нас такія трупы? Ці можам мы ўспомніць, хоць адзін выпадак, каб выканком якога-небудзь беларускага горада выдзеліў сродкі на пастаноўку спектакля? Або ўстанавіў стыпендыю для маладога талента? Або знайшоў па сваёй ініцыятыве памяшканне для рэдакцыі літаратурнага часопіса, для выдавецтва?

Думаю, што не хутка дачакаецца наша культура і нейкага мецэнацтва, бо айчынныя спекулянты і перакупшчыкі ніколі не стануць сапраўднымі бізнесменамі, а тым больш апекунамі, фундатарамі мастацтва, такімі, якім быў, напрыклад, Раман Скірмунт. Ды і больш прыстойныя прадпрымальнікі, якія ўсё ж нараджаюцца сёння,— гэта дэнацыяналізаваныя людзі, якія не ведаюць роднае мовы, гісторыі, культуры Беларусі, якім абыякава нацыянальная ідэя, духоўнасць народа, якім свеціць толькі адно — залаты цялец.

Прыклад уважлівага, клапатлівага стаўлення да творчых людзей, і ўвогуле ўсёй інтэлігенцыі, павінны даваць наш парламент і ўрад. Ды дзе там! Многія дэпутаты, асабліва кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, прадпрыемстваў, заўсёды, калі заходзіць гаворка пра павышэнне зарплаты работнікам навукі, культуры, урачам, настаўнікам, патэтычна выкрыкваюць на сесіі: «Што? Зноў за кошт рабочага класа і сялянства?»

І трэба зазначыць, што гэтыя папулісцкія, істэрычныя крыкі знаходзяць у пэўным асяроддзі водгук, настройваюць люмпенізаваны люд супраць «гнілой інтэлігенцыі», якую недалюбліваў у свой час яшчэ правадыр сусветнага пралетарыяту і даў ёй такое азначэнне.

Хоць даўно ясна, што рухавіком прагрэсу ў матэрыяльным і духоўным жыцці ва ўсе часы была і застаецца высокаінтэлектуальная частка грамадства — інтэлігенцыя.

(Працяг на стар. 10—11).

# ВІЦЕБСКІЯ СНЫ

## Што было падчас Шагалаўскіх дзён

Пятніца, субота, нядзеля... І толькі? Здаецца, тыдзень прамінуў. А мо і не адзін. У неабдымным змесціве трох дзён было ўсё: дзівасвет Марка Шагала і калізіі жыцця мастака; непаўторны гістарычны лёс і духоўная унікальнасць Віцебска; капрызлівасць рытмічных ліній і пастаянства мелодый у музыцы ,яго цяперашніх вуліц; гармонія і парадоксы людскіх стасункаў...

Пятніца пачалася сустрэчамі ў Музычнай гасцёўні: прэс-канферэнцыя, адкрыццё Шагалаўскіх дзён, пачатак міжнародных чытанняў, агледзіны дарункаў Дому-музею мастака (ад срэбнай лыжачкі й газавай лямпы — да грунтоўна выдадзеных мастацтвазнаўчых даследаванняў і выставачных каталогаў). Гэты ўтульны, з любоўю афармлены і (нягледзячы на сціплую рэкламу) запоўнены зацікаўленым людам салон адразу ператварыўся ў своеасаблівы інфармацыйна-эстэтычны асяродак.

Тут амаль не ўспаміналі пра фарысейскія спробы адлучыць Шагала ад Віцебска і ўдзячна гаварылі пра цяперашнюю падтрымку справы ўшанавання памяці славутага земляка. (Гарадскія ўлады на чале з мэрам М. Федарчуком фінансавалі, напрыклад. рэканструкцыю вуліцы Пакроўскай, дзе жыў Шагал; грошы на помнік даў спонсар — фірма «Вячэрнія зоры»).

Тут прагучаў усхваляваны заклік М. Паўлава (ад камісіі па культуры Віцебскай рады БНФ «Адраджэнне»): аднавіць прадмесце Задзвінне, захаваўшы аўтэнтычнасць яго каларытнай старасвецкай забудовы, звярнуцца ў ЮНЕСКА з прапановай — надаць Задзвінню статус помніка культуры сусветнага значэння. Ці ж не варты гэтага гістарычны раён, звязаны з ушанаваннем памяці вялікага мастака?

Тут адбылося і кранальнае віншаванне першага лаўрэата Шагалаўскай прэміі, устаноўленай гарвыканкомам,— самаадданага, як ніхто іншы, пачынальніка і апантанага прадаўжальніка змагання за Шагала ў Віцебску, паэта Д. Сімановіча. Дарэчы, ягонымі ж, як старшыні гарадскога Шагалаўскага камітэта, намаганнямі былі зладжаны і мінулыя (студзень 91-га), і сёлетнія Дні.

Галоўнае ж, тут, у гасцёўні, абменьваліся думкамі навукоўцы, літаратары, журналісты, а гэта значыць кожны з нас штодня багацеў хоць на адну ідэю.

Ці варта паўтараць асэнсаванае падчас леташніх чытанняў і пераказваць пачутае цяпер? Ці варта спрачацца з апанентамі, якія любяць паразважаць наконт Шагала, не маючы нават дылетанцкага ўяўлення пра ягоную (і не толькі пра ягоную) творчасць? Ці варта іранізаваць з госцей-мастацтвазнаўцаў, адна з якіх убачыла на карцінах Шагала «московских извозчиков», а другая легкадумна зазначыла, што «фізічная радзіма Шагала — Віцебск, а духоўная — Масква, Пецярбург, гарады, багатыя на прыватных уласнікаў ягоных палотнаў»...

Шкада, беларускіх навукоўцаў-шагалаведаў сярод удзельнікаў чытанняў не было. Ды ці ёсць такія спецыялісты?..

І жорстка, і горка, і слушна гаварыў В. Быкаў: «Мы, беларусы, тугадумы, асуджаны на тое, каб падбіраць недаедкі са сталоў больш увішных суседзяў... А гісторыя даўно на баку Шагала. Чый мастак Шагал: беларускі? рускі? французскі? яўрэйскі? Шагал належыць усяму чалавецтву, сучаснай хрысціянскай цывілізацыі, тут няма і не можа быць вялікіх дыскусій. Мы не будзем Шагала прыватызаваць... Але няма прарока ў сваёй айчыне: Беларусь прызнаé яго апошняй».

І тым не менш — прызнаé. Чытаў свае творы, прысвечаныя Шагалу, Д. Сімановіч. А Р. Барадулін — пераклады вершаў вялікага «падданца слова і фарбы», разважаючы пра тое, як у ауры паганства, інтэрнацыянальнага па сутнасці сваёй, спасцігаў свет мастак, на чыіх палотнах невыпадковым частым знакам рабіўся певень — «служка богава агню». І — пажару, у час якога з'явіўся на свет будучы майстар адраджэнскага кшталту, з касмічным зрокам... Літаратар В. Ніціфаровіч дазволіў сабе досыць рызыкоўна, паводле ягоных жа слоў, супастаўленне вершаў Шагала з Купалавымі, зазначыўшы імкненне абодвух творцаў «пераадолець зямное прыцягненне».

Багатымі на сур'ёзныя досведы і жывыя думкі былі ўсе, за нязначным выключэннем, даклады.

«Благаславёны будзь, мой Віцебск» — назва работы маскоўскай мастацтвазнаўцы Н. Шацкіх. «О, Парыж, ты мой другі Віцебск!» — выгукнуў Шагал. Ды Парыж, як адзначыла даследчыца, з'яўляўся ў ягонай творчасці перыядычна, Віцебск жа стала прысутнічаў. Парыж з Эйфелевай вежай і Віцебск з Пакроўскай царквою, якую мастак бачыў з акна бацькоўскага дома, супастаўляліся ім як Вавілон са сваёй міфічнай будынінай і горад з храмам Ерусалім. Карова трактавалася як прамаці роду чалавечага. Сем пальцаў на руцэ ў аўтапартрэце — як біблейскія сем дзён стварэння...

Уласная міфалогія, якая створана мастаком і робіць зусім адметнымі яго работы, абумоўлена, відаць, адмысловымі асаблівасцямі менталітэту. Працытую А. Лебедзеву (Масква): «Іудаізм патрабаваў: не ствары сабе куміра, не стварай выяў. Яўрэй, які асмеліўся намаляваць чалавечую постаць, — з'ява асаблівая. Яўрэйскай школы выяўленчага мастацтва не было. М. Шагал стварaў як бы на пустым месцы, але зыходзячы з хасідскага светаадчування («наш скарб закапаны пад ачагом нашага ўласнага дома») з яго містыцызмам, своеасаблівым жыццём у цудзе. Усё асязальнае — і таямнічае, будзённае — і духоўнае; побытавае і свяшчэннае, нізкае і высокае, палёт і падзенне — непарыўныя ў хасідызме. І Шагал — яўрэй, рускі, беларус, француз адначасова — не аддзяляў сябе ад навакольных».

А што ж казалі госці з Германіі?

Доктар Г. Мандэль захапляўся: «Знаходжуся ў горадзе, дзе добры анёл Шагала лунае ў паветры. Віцебск Шагала зрабіўся для ўсяго свету зямным раем, нават людзі, розныя па рэлігійных перакананнях і па мовах, знаходзяць часцінку сваёй радзімы тут».

З пакаяння пачаў сваё выступленне прафесар Гетынгенскага універсітэта К. Гольдман: «Калі я тут стаю зараз як немец, то не забываюся, што нямецкія салдаты разбурылі ваш горад. Яны вельмі позна ўсвядомілі, што калі яны ўварваліся з гвалтам у ваш край, то разбурылі й свае сэрцы. Многія немцы пастараліся выбрацца з гвалту і вярнуцца да любові й разумення, і ў гэтым вельмі дапамог ваш мастак Марк Шагал: у ягоных карцінах заўжды любоў. Хто-кольвечы думае, што Шагал маляваў закаханыя пары, кветкі й жывёлін. Але ён паказаў увесь жах вайны. Пасля вайны адразу ён не схацеў вярнуцца жыць у Францыю, хаця яго сустракалі вельмі радасна. Шагал гаварыў: «Людзі падыходзяць, усміхаюцца, падаюць мне руку — а я ўвесь час думаю: што гэтая рука рабіла тры гады назад? Можа быць, фінансавала суседзяў? І ён вярнуўся тады зноў у Амерыку, дзе зрабіў накіды будучых знакамітых карцін».

Найцікавую лекцыю прачытаў К. Гольдман: «Тэма ўкрыжавання ў творчасці М. Шагала», на ўзоры карціны «Роскрыж у белым». У 34-м фашысты пачалі выкідаць работы Шагала з музеяў, сёе-тое спалілі. У 38-м гарэлі сінагогі. У 40-м, захапіўшы паўночную Францыю, фашысты вымушалі калабарантаў да выдачы яўрэяў рэйху. Прадбачачы жудасную трагедыю, мастак напісаў «Роскрыж у белым» у 1938 г., пасля разбурэння малітоўных дамоў іудзеяў у Германіі. З Бібліі ён засвоіў, што насіллем людзі не могуць змяніць штосьці да лепшага. Насілле заўжды спараджае гвалт у адказ. Як да апошняй надзеі, звярнуўся мастак да вобразу лепшага з сыноў чалавечых і любімага Божага сына. Скарыстаўшы ў карціне ўкрыжаванне, самы галоўны хрысціянскі сімвал, ён адпаведна традыцыі пакінуў німб над галавой Ісуса, надпіс на крыжы і сляды цвікоў, але дадаў і атрыбуты іудзейскія: саван, талес, менору,—тым самым стварыў універсальны знак прымірэння.

Бургамістр г. Майнца А. М. Кайм, спецыяліст па справах культуры, таксама закрануў тэму пакаяння і прымірэння. А пачаў здалёк.

Яўрэйская абшчына існавала ў Майнцы сотні й сотні год, яшчэ з рымскіх часоў. У 14 ст. эпідэмія чумы пагнала яўрэяў з берагоў Рэйна, і, перасяліўшыся на ўсход, яны ўзялі з сабою мову ідзіш, мясцовы дыялект, дасюль вядомы ў Германіі. Майнц меў старадаўнюю хрысціянскую святыню, сабор св. Стэфана. У час другой сусветнай вайны ён амаль цалкам быў разбураны. Сабор хацелі аднавіць, і абавязкова з вітражамі. Каталіцкі святар, знаёмы з творчасцю Шагала паводле рэпрадукцый, загарэўся ідэяй — заказаць вітражы яму. Думка злучыць у адноўленай царкве хрысціянскае ды яўрэйскае мастацтва захапляла святара як магчымасць увасобіць ідэю пасляваеннага прымірэння. У 73-м распачалі перапіску... Шагал, які не адразу пасля вайны змог жыць у Францыі, да Германіі захоўваў зусім пэўнае стаўленне. І толькі пасля довадаў пра карані яўрэйскай культуры ў Майнцы (старажытная назва — Магенца) праца пайшла. Калі ж у храме адбыўся іудзейскі кадзіш як знак прымірэння між яўрэямі ды хрысціянамі, мастак паабяцаў зрабіць вітражы яшчэ, і



Адкрыццё музея і мемарыяльнай дошкі на Доме-музеі Марка Шагала на вуліцы Пакроўскай у Віцебску.

прытым бясплатна. Апошнія (усе яны на біблейскія сюжэты) закончыў у год сваёй смерці (1985).

На пахаванні прысутнічалі дзесятка паўтара чалавек; нязвыклым для таго часу было тое, што паслы СССР ды Ізраіля стаялі поруч. Ну, а тагачасным савецкім паслом у Францыі быў... віцяблянін Абрасімаў. Завяршылася пахаванне «па-шагалаўску»: мастак забыўся арандаваць месца на могілках, і давялося пахаваць яго на могілках каталіцкіх — «выручыў» хтосьць з сяброў-французаў. Першым надмагіллем мастака быў крыж. «Яўрэйскае пахаванне на хрысціянскіх могілках — гэта было тыпова для М. Шагала, яўрэя з Віцебска»,— закончыў сваё паведамленне А. М. Кайм.

Госці з Германіі падарылі Дому-музею сапраўдныя каштоўнасці: дакументы, рэпрадукцыі, кнігі... Пакуль не зняволілі ў шкляной вязніцы Біблію з ілюстрацыямі Шагала, можна было пагартаць гэты раскошны фаліянт, старонкі якога свецяцца дзівоснымі фарбамі.

●

На Старасямёнаўскіх могілках адкрывалі надмагільны помнік Юрыю Пэну (скульптурны партрэт выканаў віцяблянін А. Гвоздзікаў). Першы настаўнік Шагала, ён вучыў маляваць многіх гараджан. І ў Віцебску яшчэ ёсць людзі, якія памятаюць Пэна, а яго загадкавае забойства ў 37-м упэўнена звязваюць з тагачаснай палітыкай культурнага генацыду. У засені дрэў гучалі вершы, успаміны. Да вызваленага з-пад палатна помніка клаліся кветкі.

Хтосьці з літаратараў захацеў наведацца і да каменя, устаноўленага ў памяць маці Я. Райніса. А германскія госці, пачуўшы, што тут былі калісьці лютэранскія могілкі, латышскія ды нямецкія, ажывіліся...

Настрой журботнай урачыстасці патануў у прынізлівым пачуцці сораму. Лепш бы не бачылі эстэты-немцы з іх акуратнасцю, з іх гатоўнасцю да пакаяння, — лепш бы не бачылі... Стаптаныя безыменныя магілкі, па якіх гайсалі-прабіваліся скрозь натоўп да помніка Пэну самыя цікаўныя-нецярплівыя, — яшчэ не ўсё. Мы пайшлі па старой алеі, засыпанай друзам, жахаючыся пабітай агароджы, недагледжаным дрэвам, засмечанаму кустоўю, раструшчанай браме. Валун пры дарозе (сама магіла Райнісавай маці згублена) з надпісам: «Дарта Плiешкане. 1828—1899» толькі падкрэсліваў бессаромна-варварскае стаўленне людзей да апошняга прытулку сваіх суродзічаў. Вывaрачаныя «з коранем» старыя нямецкія крыжы. (Хтосьці паспяшаўся патлумачыць, што апошнім часам тубыльцы рабуюць нямецкія магілы, шукаюць каштоўнасці). Хаваюць «па чужых касцях» — стандартныя помнікі са свежымі датамі яўна на месцы колішніх. Культура некропаля — люстэрка і агульнай культуры, і духоўнага здароўя нацыі... Ну як нам жыць са сваім дыягназам?! Можа, мастацтва ўратуе і вылечыць?

«Ікарус» тым часам спыніўся ля вядомага ў Віцебску будынка: некалі тут быў акруговы суд, зусім яшчэ нядаўна месціўся абком партыі, а цяпер спраўляў наваселле новы гаспадар — Віцебскі мастацкі музей, адкрывалася выстаўка. Яна размясцілася пакуль у некалькіх былых кабінетах. Але якая экспазіцыя: вернісаж Ю. Пэна! Пасля шматгадовай цыганіны вернуты законным уладальнікам са сховаў Дзяржаўнага мастацкага музея рэспублікі (дзе іх ніхто не бачыў, не мог ацаніць) 152 работы выдатнага жывапісца. Яны дадаліся да тых, што былі ў фондах абласнога краязнаўчага музея. З усёй пэнаўскай спадчыны, што асела ў Дзяржмузеі пасля вяртання з эвакуацыі, у Мінску застаўся цяпер, здаецца, толькі напісаны Пэнам вядомы партрэт ягонага вучня — Шагала.

На выстаўцы ў нованароджаным віцебскім музеі мы пабачылі каля чатырох дзесяткаў карцін майстра, які сябраваў з І. Рэпіным, спавядаў лепшыя традыцыі перасоўнікаў, заклікаў моладзь пераймаць галоўнага настаўніка — прыроду, у якой усё жыццё вучыўся сам. Вось краявіды з Віцьбай, з Дзвіной. Вось цэ-

(Працяг на стар. 14).

# ВІЦЕБСКІЯ СНЫ

(Пачатак на стар. 13).

лая галерэя твараў: партрэт маці; цыган з люлькай; аўтапартрэт; стары салдат; дзяўчынка; сляпая старая... Глядзіш — і ўспамінаеш знакамітую серыю П. Корына «Русь уходящая». Толькі тут не Русь. Тут Віцебшчына. На палотнах Пэна — той віцебскі люд, які ўжо ніколі не вернецца.

●

Што зрабілася з часам? Пятніца проста бясконцая! Быў яшчэ пленэр і выстаўка «Юныя нашчадкі Віцебскай мастацкай школы». Была магчымасць паглядзець па абласным ТБ французскі фільм пра Шагала. А вечарам у Гарадскім цэнтры культуры паслухаць ансамбль «Класік-Авангард».

Канцэрту папярэднічала слова нястомнага Д. Сімановіча, якое лепш за ўсялякія музыказнаўчыя каментарыі настроіла-натхніла слухачоў. Захоплена і захапляюча, так, як чытае вершы, прачытаў паэт сваё эсэ «Колькі музыкі ў фарбах Шагала».

І паўстаў ва ўяўленні вобраз горада-сну. Горада, дзе спалучэнне беларускага ды яўрэйскага меласу было натуральнай з'явай, і тутэйшы праваслаўны беларус, і віцебскія хасіды па-суседску падпявалі адно аднаму на сямейных святах. Горада, дзе будучы мастак браў урокі скрыпкі, спяваў у сінагозе, марыў паступіць у кансерваторыю, захапляўся вершамі. Горада, культуру якога на пачатку стагоддзя вызначала інтэнсіўнае канцэртнае жыццё. Горада, які ўвайшоў у творчасць Шагала адзінай яркай лейттэмай і самым загадкавым міфам.

Музыкальнасць Шагала — і ў абрысах летуценных закаханых, і ў постацях шматлікіх скрыпачоў; і ў сцэнаграфічных работах, і ў ягоным роспісе столі Парыжскага Гран-апера... Калі ж зайграў «Класік-Авангард», адчулася, колькі жывапісных фарбаў, дасканалых або мудрагелістых ліній, паэтычных вобразаў, філасофскіх сімвалаў у палотнах музычных! Гучалі творы Пракоф'ева, Жака, Крэйна на яўрэйскія тэмы, трыо Коплендa «Віцебск», камерная музыка Моцарта, Віла-Лобаса, дэ Фальі. Публіка дзякавала: захапленне, розы, авацыі!

●

Апоўдні ў суботу на вуліцы Калгаснай, у сінагозе, мела адбыцца служба, пазначаная словам «кадзіш», — асвячэнне памяці Шагала ды Пэна. Наш аўтобус там чакалі. Гуртом мы ўвайшлі ў двор і сталі перад высокім ганкам звычайнай новай хаты. І тут жа — як знарок! — закукарэкаў певень у траве. Спраўна «служка агню» галасіў. Выпадковасць? Не скажыце... Шагалаўскай міфалогіяй паветра тутэйшае поўніцца.



Прафесар Гетынгенскага універсітэта Крыстаф ГОЛЬДМАН на Шагалаўскіх чытаннях.
Фота М. ШМЕРЛІНГА.

Малады старшыня віцебскай яўрэйскай абшчыны А. Заводнік патлумачыў сутнасць таго, што будзе ў сінагозе, і запрасіў у малітоўны дом. Выдаткі «наваcтройкі» паспрыялі таму, што апынулася я зусім побач са старымі, якія вялі службу. А на лаўках сядзелі сталага веку мужчыны, жанчыны былі пераважна з ліку гасцей. Старыя з мудрымі тварамі, якіх не ўбачыш у гарадскім натоўпе, — у рытуальных галаўных уборах, накідках-талесах; распеўнае чытанне суправаджаюць рытмічныя дзеянні, рухі... Павеяла чымсьці таямнічым, захаваным у глыбіні свядомасці й сэрца, уратаваным праз нягоды, ганенні, войны, праз дзесяцігоддзі ваяўнічага атэізму. Калі завяршаўся кадзіш і старыя ў строгім парадку здымалі свае накідкі, застаючыся ў звычайных касцюмах, на пінжаку высокага, з прывабным суровым тварам, мужчыны адкрыўся кідкі прамавугольнік ордэнскіх планак...



Выступае Васіль БЫКАЎ

На вуліцы госці і гаспадары, якія запрасілі ўсіх на наступную суботу — шабас, або шабад, — не маглі нагаварыцца. Мала хто глядзеў у той бок, дзе адбылося штосьці вельмі сімвалічнае: германскі прафесар Гольдман і адзін з тых, хто спраўляў кадзіш, радасна парукаўшыся, абняліся...

Увечары паўнюткая зала тэатра імя Якуба Коласа вітала купалаўцаў, якія прыехалі паказаць толькі адзін спектакль — «Памінальную малітву» Р. Горына. І ў гэтым таксама быў сімвалічны і высакародны сэнс.

●

Суботнім днём адбылося і адкрыццё экспазіцыі ў Карціннай галерэі. Васількі з каласкамі — вяночкам пад столлю, каляровы партрэт Шагала з васільковымі вачамі, а далей на сценах—7 пано для Яўрэйскага камернага тэатра, копіі якіх падарылі Віцебску нямецкія спецыялісты. Копія ніколі не бывае лепшай за арыгінал. І ўсё ж... Як цікава разгледзець гэту унікальную працу мастака і не без радасці заўважыць у раскіданых па жывапіснай плоскасці фігурках музыкантаў... местачковы аркестр! Са скрыпачом і кларнетыстам, з барабаншчыкам і ўжо зусім тутэйшым цымбалістам.

Асобнай увагі вартая арыгінальная работа маладога віцебскага мастака А. Вярэніча. Яркі жывапісец, ён паказаўся і таленавітым дызайнерам, які цалкам — ад сцен да столі — аформіў у галерэі мемарыяльны пакой. Інсталяцыя, жывапіс, фотамантаж... У густоўным спалучэнні лаканічных і ёмістых сродкаў раскрыўся вобраз калыскі Шагала — роднага бацькоўскага дома і роднага Віцебска.

Гаспадыня галерэі Л. Базан назвала зробленае ў выставачнай зале крокам да стварэння Арт-цэнтра М. Шагала — установы культуры, дзе праводзіліся б і даследчыцкая дзейнасць, і праца з сучасным мастацтвам. Але старшыня Шагалаўскага камітэта рашуча запярэчыў: цэнтрам павінен быць Дом Шагала, а не якая іншая ўстанова, інакш, калі пачаць адасабляцца і расцягваць агульную справу кожны ў свой бок, свет не будзе нас прызнаваць.

●

«Твае чыстыя сны я перадаю і цалую цябе фарбамі й лініямі», — прызнаваўся Шагал Віцебску. «Рэдкаму гораду ў свеце ўдаецца зрабіцца сном і марай мастака. Хай хутчэй вырашаецца праблема адкрыцця дома: сон мастака не можа быць без каранёў», — заклікала намеснік генеральнага дырэктара Траццякоўскай галерэі Л. Іаўлева. «Сны павінны сніцца дома, у роднай хаце. Калі будзе адкрыты дом, вернуцца і сны...» — дадводзіў паэт Р. Барадулін.

«Наладзілі мы кантакты з Францыяй, ды ніхто адтуль не спяшаецца з дапамогай. Сям'я Шагала зрабіла падарунак музею імя Пушкіна ў Маскве. Надзея толькі на тое, што з адкрыццём Дома-музея мастака ў Віцебску, калі пра гэта будзе вядома ў свеце, з'явяцца арыгінальныя экспанаты і тут. Дом гарантуе стабільнасць у адносінах з замежнымі партнёрамі...» — разважалі віцябляне.

Цяжкасці, звязаныя з ідэнтыфікацыяй Шагалавага дома ў Задзвінні, пераадолены, пра што падрабязна распавёў дацэнт Віцебскага педагагічнага інстытута М. Рыўкін. Застаюцца кватэрныя праблемы трох сем'яў, якія, нягледзячы на адпаведнае рашэнне ўладаў, усё яшчэ не перасялены з мемарыяльнага будынка— і гэта непакоіць дырэктара Дома-музея краязнаўцу А. Падліпскага.

Але Дом Шагала (такую назву прапанавала бабруйчанка І. Герасімава) адкрыты. На вуліцы Пакроўскай, у нядзелю. У прысутнасці шматлікіх гасцей (былі піцерскія пляменніцы мастака ў іх ліку). Аздобіла сцяну дома № 11 мемарыяльная дошка. Калі людзі пайшлі глядзець пакуль што адзіны мемарыяльны пакой і міністр замежных спраў П. Краўчанка папрасіў кнігу водгукаў, відаць, з намерам зрабіць першы запіс, заюшылася гаспадыня дома: «Іх дзве! Ідуць людзі. З 60-х гадоў ідуць сюды».

Потым пакрочылі мы да маленькай утульнай плошчы паблізу, на якой ад люду зрабілася цесна і ледзь чуваць было, што казалі прамоўцы на цырымоніі... Вось адкрылі і помнік Марку Шагалу (скульптар А. Гвоздзікаў). Сядзіць у крэсле задуменны майстар, над ім на звіве высокай дугі, як сон, лунае каханая Бэла з кветкамі ў руцэ — неўмірчая муза любові і творчасці.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Віцебск—Мінск.

**Н**А ПАЧАТКУ ТРЫЦЦАТЫХ гадоў рэпрэсіўны страх яшчэ не да канца спапяліў нацыянальную свядомасць беларускага народа. Паслярэвалюцыйныя абяцанні яшчэ падтрымлівалі веру ў нацыянальнае адраджэнне, будзілі творчыя сілы нашага люду. За лічаныя гады беларускі тэатр, кінематаграфія, музыка, жывапіс і асабліва літаратура сталі неабходнымі кожнаму, нават ледзь-ледзь далучанаму да культуры і пісьменнасці беларусу.

Народ ведаў, чытаў, шанаваў і любіў сваіх пісьменнікаў: кніжкі разыходзіліся адразу, часопісы былі ва ўсіх бібліятэках, перадаваліся з рук у рукі. На новыя творы ў бібліятэках запісваліся ў чаргу. Усе газеты, апрача «Рабочего», выдаваліся на беларускай мове. Моўных праблем не існавала, бо ў Беларусі жылі сапраўды беларусы.

У шматгалоссі паэзіі і прозы ў канцы 20-х гадоў заваявала ўвагу чытачоў творчасць амаль падлетка з Бабруйска— Барыса Мікуліча. Першыя апавяданні, кнігі «Удар», «Чорная вірня», «Яхант», «Наша сонца», «Ускраіна», «Дружба», «Дужасць» дваццацідвухгадовага аўтара ўвайшлі ў першую дзесятку папулярных твораў прозы тае пары. Свежасць тэматыкі, неардынарнасць творчага почырку, сюжэтная разнастайнасць, літаратурная і грамадская актыўнасць прыцягвалі ўвагу чытачоў да твораў і да асобы аўтара. Амаль па ўсіх кнігах Б. Мікуліча праводзіліся дыспуты, абмеркаванні і модныя ў той час «суды» над героямі кніг.

За пяць гадоў творчай працы Б. Мікуліч выдаў сем кніг, надрукаваў больш за сотню рэцэнзій, артыкулаў, нарысаў, аглядаў тэатральнага рэпертуару.

Восенню 1936 года... чытач спытае, чаму 36-га, а не 37-га? Беларусь была пагранічнай рэспублікай і ва ўсіх «кампаніях» — перадавою. Так, восенню 1936 года разам з большасцю беларускай творчай інтэлігенцыі і Мікуліч трапіў у «яжовыя рукавіцы». Год следчыя ламалі хрыбет і душу і загналі на дзесяць гадоў у сібірскі лесапавальны лагер. Два з паловаю гады далі перадыхнуць, вясной 1949 г. арыштавалі зноў, пратрымалі да восені ў «слаўтай» сваім жахам «амерыканцы» і пагналі этапам з турмы ў турму ў «вечную ссылку» ў Краснаярскі край.

Адтуль Мікуліч ужо не вярнуўся. Чулае, збалелае сэрца ў 5 гадзін раніцы ў пакойчыку леспрамгасаўскага дыспетчара спынілася назаўсёды 17 чэрвеня 1954 года. Ён пражыў не поўныя 42 гады і не дажыў тры месяцы да рэабілітацыі.

Хавала беларускага пісьменніка, ссыльнага Б. Мікуліча (а «вольным» гэта не рэкамендавалася) усё сяло Машукоўка. На ягонай магіле чужыя людзі паставілі помнік і дагледаюць магілу вялікага пакутніка, таленавітага пісьменніка, які натхнёна нёс мастацтва ў кожны куточак сваёй няволі: чытаў лекцыі, ставіў спектаклі і канцэрты, пісаў скетчы і актуальныя аднаактоўкі. Яго ведалі і ўсе любілі.

У няволі і ў кароткія перапынкі паміж лагерам і ссылкаю Б. Мікуліч нястомна працаваў над аповесцямі «Цяжкая гадзіна», «Жыццяпіс Вінцэся Шастака», «Развітанне», «Зорка», «Гадзюка ў кароне», «Палеская аповесць», пісаў раман «Адвечнае» пра Айчынную вайну 1812 года на Беларусі.

Сапраўднай падзеяй стала публікацыя ў часопісе «Нёман» (№ 3, 1987 г., № 12, 1988 г.) спавядальнага дзённіка пісьменніка «Аповесць для сябе». Пры другім арышце ў Бабруйску дзённік быў канфіскаваны разам з іншымі рукапісамі. Што дзённік забралі чэкісты, мне расказвала Барысава сястра Марыя Міхайлаўна. Я не спадзяваўся яго калі-небудзь убачыць, а тым больш надрукаваць. І ўсё ж не ўсе рукапісы гараць. Не праглынуў агонь і дзённік Б. Мікуліча. Непрадбачаны шчаслівы выпадак дапамог знайсці, выбавіць з няволі і апублікаваць гэтую шчырую споведзь.

Калі б ліпеньскім днём 1970 года я не выправіўся ў магазін «Сталічны» і не пашанцавала сустрэцца з добрымі людзьмі, дзённік Б. Мікуліча мог бы дасюль буцвець у архівах КДБ, можа, і беззваротна знікнуць. Ніхто не ведае, колькі там яшчэ ляжыць таленавітых, нікому не вядомых твораў.

А было так: насупроць філармоніі мой добры знаёмы пісьменнік і вучоны Леанід Яўменаў размаўляў з маладым сімпатычным маёрам. Я спыніўся прывітацца. «Знаёмцеся», — сказаў Леанід Фёдаравіч. Маёр загаварыў зусім натуральна на добрай беларускай мове і назваўся: «Аляксандр Данілавіч Гаралёў». Сказаў, што ведае мяне па друку і збіраўся запрасіць на сустрэчу з выхаванцамі яго школы. — «А што ў вас за школа?» — пацікавіўся я. Ён усміхнуўся, паглядзеў на мяне. «Школа КДБ... Усе нашы выхаванцы з вышэйшаю адукацыяй. Спе-

# ДВОЙЧЫ ВЫЗВАЛЕНЫ ДЗЁННІК

**Выдатнаму беларускаму празаіку Барысу Мікулічу 19 жніўня споўнілася б 80 гадоў. Трыццаць восем жніўняў ён не дажыў да гэтага юбілею. Арышты, год пад «следствам», дзесяць гадоў у лагеры і «вечная ссылка» ў Краснаярскі край 17 чэрвеня 1954 года звялі ў магілу гэтага прыгожага і светлага чалавека, таленавітага і нястомнага мастака.**

**Яго творы і сёння ў актыве нашай літаратуры. Яны выдаюцца і перавыдаюцца, перакладзены на рускую мову, пашыраюць і аздабляюць наша прыгожае пісьменства.**

**Гісторыю выратавання і публікацыі дзённіка Барыса Мікуліча расказвае яго даўні таварыш.**

цыялісты ад заатэхніка да кібернетыка. Цікавыя і прагрэсіўныя людзі розных нацыянальнасцей».

Прызнацца, адразу збянтэжыўся. Падумаў, гэтага мне яшчэ не хапала. Памыляўся і ўсё ж даў згоду: пад'юджвала цікавасць паглядзець, што за ўстанова ў будынку без шыльды з вечна замкнутымі парадным дзвярыма. Гэтае ведамства дваццаць гадоў пільна ахоўвала мяне, ведала мой кожны крок, мабыць, і цяпер не траціла з поля свайго пільнага зроку.

І вось у новых абставінах і ў іншай якасці сам па сабе іду на сустрэчу з будучымі следчымі і аператыўнікамі. Ісці іду, а пра што з імі буду гаварыць, не ўяўляю. Пра што яны будуць пытацца, што ім чытаць? Тэма гутаркі не вызначана, не ўяўляю, з чаго пачну і чым закончу. Хай будзе, як будзе, неяк выкручуся.



Барыс МІКУЛІЧ 1948 год. Бабруйск.

Каля пад'езда мяне ўжо чакаў Аляксандр Данілавіч і сказаў, што аўдыторыя ўжо чакае. Вялікая актавая зала мігціць новенькімі лейтэнанцкімі пагонамі. Па абліччах відно, што сабраліся «дзеці розных народаў». Вырашылі пачаць з пытанняў. Першыя адразу насцярожылі мяне. Ці не правакуюць часам? Можа, знарок запрасілі, каб пабачыць, чым дыхае былы зэк? Мяне здзівіла, што будучыя чэкісты горача абараняюць і хваляць пісьменніка Анатоля Кузняцова, яго «Працяг легенды» і «Бабій яр» лічаць лепшымі творамі, высока ацэньваюць ушчэнт раскрытыкаванага Салжаніцына, пытаюцца, як я адношуся да афіцыйнай крытыкі іх творчасці і палітычнай пазіцыі. Сі-ту-а-цы-я! Згаджацца? Можаш і дадому не вярнуцца. Пярэчыць? Пачаў выкручвацца: далдоніў бяздоказныя аргументы «Правды» і «Литературной газеты», не ўспамінаючы бруд, які лілі гэтыя выданні на абодвух пісьменнікаў.

У адным я шчыра прызнаўся, што Іван Дзянісавіч не мой герой, бо «шасцёрку», гатовага за скрылёк кілбасы поўзаць перад Цэзарам, гэтым лагерным «арыстакратам», чалавека, здольнага ў таварыша «закасіць» пайку, звычайна ў лагеры заганялі пад юрцы (нары), лічылі «шакалам». Слухачы здзівіліся маёй дасведчанасці ў лагерным жаргоне. Я ўдакладніў: пісьменнік павінен ведаць розныя моўныя пласты і нават арыштанцкую «славеснасць».

Каб адбіцца ад вострых пытанняў, я пачаў расказваць пра дасягненні беларускай літаратуры, пра новыя творы і іх аўтараў. У заключэнне прачытаў некалькі вершаў па-беларуску і ў перакладах на рускую мову. Слухалі ўважліва, воплескаў не шкадавалі, як усе далікатныя людзі.

Пасля сустрэчы падышоў невысокі сіваваты палкоўнік. Прадставіўся: «Начальнік школы. Прабачце, затрымаўся ў камітэце, а вершы слухаў з цікавасцю», — і прапанаваў паказаць сваю «гаспадарку». У калідорах былі вялікія стэнды па гісторыі ЧК, ВЧК, ГПУ, АДПУ, НКУС, МУС, КДБ. Мноства здымкаў вядомых чэкістаў, некалькі дзесяткаў іх пасмяротна рэабілітаваны. Палкоўнік пабедаваў: «Вы ж заўважылі, які ў нас яршысты кантынгент. Іх асабліва бударажаць рэпрэсіі трыццатых гадоў, калі загінулі нават многія выдатныя разведчыкі і чэкісты. Але, як іх пераканаеш, калі мы і самі не ўсё разумеем, што тады адбывалася».

Мы агледзелі аўдыторыі, спальні, бібліятэку, пакоі адпачынку, сышлі на першы паверх у «пищеблок». Кухар далажыў колькі чалавек і чым корміць, адчыніў дзверы і запрасіў у баковачку. Мы селі за накрыты стол. З высокай кантовай пляшкі выпілі па кілішку «зуброўкі» і разгаварыліся пра ўсё і ні аб чым. Раптам Аляксандр Данілавіч спытаў, ці не ведаў я часам пісьменніка Барыса Мікуліча. Я ж не толькі ведаў, а доўгі час сябраваў з ім і кватараваў у Бабруйску ў доме яго бацькоў. Спытаў я, адкуль ён ведае Мікуліча. «Я займаўся яго рэабілітацыяй. І дагэтуль не магу супакоіцца, за што загубілі такога светлага, прыгожага чалавека і таленавітага пісьменніка. Я асабліва гэта зразумеў з яго дзённіка, прыкладзенага да справы 1949 года. Дзённік настолькі цікавы, што я яго цішком пад шынялём прынёс дамоў, і мы з жонкаю гадзінамі чыталі цікавейшыя запісы пра Купалу, Коласа, Бядулю, пра вядомых артыстаў, мастакоў і кампазітараў, трапныя ацэнкі спектакляў. Ёсць і інтымныя старонкі, а найбольш пра лагерныя пакуты».

Слухаў і не верылася, як ацалеў Барысаў дзённік. Я ж у 1937 годзе бачыў, як у двары «амерыканкі» ў спецыяльнай печы спальвалі кіпы рукапісаў, здымкаў, лістоў, самых розных папер і кніг. Да дзённіка Мікуліча, відаць, не дайшла чарга. Асцярожна пацікавіўся, ці могуць дзённік аддаць сястры пісьменніка. Гаралёў параіў звярнуцца з просьбаю да намесніка старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі, і ён можа задаволіць просьбу, бо ў дзённіку няма ніякай крамолы і нічога цікавага для органаў.

Я ніколі нічога не адкладаю на пасля. Увечары таго ж дня сустрэўся з Марыяй Міхайлаўнай і разам напісалі просьбу ў Камітэт дзяржбяспекі. Я ведаў, што Максім Танк добра знаёмы з намеснікам старшыні А. Д. Рудаком і папрасіў яго пахадайнічаць ад Саюза пісьменнікаў.

У той час адным з сакратароў быў Янка Брыль. Да яго і трапіў вызвалены дзённік Мікуліча. Барыс пасля вызвалення з лагера адразу паехаў да старэйшай сястры ў Ашхабад. Там і пачаў пісаць дзённік па-руску. Ён ведаў, што дом у Бабруйску ў вайну згарэў, што прытулку няма, і ўсё ж паехаў на Радзіму. А ў 1948 годзе ў часе землетрасення Кацярына Міхайлаўна загінула разам з сям'ёю. Для Барыса і Марусі, Тамары і Жэні гэта быў страшэнны ўдар.

Янка Брыль вельмі зацікавіўся дзённікам, даў прачытаць яго Танку і параіў рэдактару часопіса «Нёман» Андрэю Макаёнку хутчэй надрукаваць «Аповесць для сябе». Макаёнак таксама загарэўся, і рэдакцыя пачала рыхтаваць рукапіс да друку.

Дзённік пісаўся дробным почыркам, даволі бляклым чарнілам на пажоўклых лістах міліметроўкі, пераплеценых накшталт амбарнай кнігі. Таму перадрук ішоў даволі марудна. Для публікацыі падрыхтавалі першыя сто старонак. Адзін паасобнік далі мне, каб напісаў прадмову і неабходныя каментарыі, расшыфраваў ініцыялы і крыптаграмы.

І тут работнікі рэдакцыі непрадбачана дапусцілі недаравальную прамашку: разрэкламавалі па тэлебачанні публікацыю дзённіка Мікуліча. Мяне гэта ўстрывожыла: у тэксце не лепшым чынам характарызаваліся былыя «сябры», а цяпер з надзейнымі сувязямі і ўплывам. Яны адчулі небяспеку, замітусіліся, забегалі, дапялі да высокіх інстанцый, адтуль пазванілі куды трэба. «Сігнал» спрацаваў адразу. Мяне тэрмінова паклікаў у рэдакцыю намеснік Макаёнка Георгій Папоў. Я адразу адчуў трывогу. Ён з парога спытаў, дзе экземпляр машынапісу, які далі мне. «У сястры Мікуліча», — схлусіў я. — «Зараз жа вярніце ў рэдакцыю», — «Марыя Міхайлаўна ў Бабруйску. Наўрад ці згодзіцца аддаць тыя старонкі. Дзённік жа належыць ёй, па яе просьбе вернуты, і пасля публікацыі арыгінал вернеце ёй». — «Арыгінал ужо зноў там, адкуль трапіў да нас. На вялікі жаль, публікацыі не будзе. Толькі што ў рэдакцыі з'явіўся чалавек з органаў, забраў з сейфа дзённік і загадаў вярнуць усе аддрукаваныя экземпляры. Свае мы аддалі. А вы, калі не хочаце мець непрыемнасцей, вярніце апошні». — «Да непрыемнасцей я прывык, а аддаваць у мяне няма чаго. Марыя Міхайлаўна паехала ў Бабруйск і колькі там прабудзе, невядома». — «Дайце яе адрас». — «У яе там шмат радні і сяброў. Дзе спынілася, не ведаю», — як мог выкручваўся я.

На ганку рэдакцыі сустрэўся Макаёнак. Расказаў яму пра размову з яго намеснікам. Андрэй Ягоравіч азірнуўся і пaціху сказаў: «Няхай яна пашле іх падалей і нічога не аддае. Дарэмна разванілі нашы «рэкламнікі». Ведаю, хто стукнуў туды. Пачакаем, можа, што зменіцца». Так тыя сто старонак і засталіся ў сястры пісьменніка.

Праз некаторы час Марыя Міхайлаўна з трывогаю расказвала, што ў зацішных вуліцах Бабруйска і Мінска яе спыняюць нейкія невядомыя жанчыны і просяць прадаць за 500 рублёў тыя старонкі дзённіка. Здзіўляла дакладнасць інфармацыі і настойлівасць зацікаўленых.

Міналі гады. На вялікі жаль, не стала адважнага і дэмакратычнага Андрэя Макаёнка. Ідэалагічны барометр папоўз на непагадзь. Пра публікацыю дзённіка нельга было і думаць. У 80-я гады зноў праяснела, загаварылі пра дэмакратыю і перабудову, адчулася цэнзурная палёгка.

У ліпені 1986 года мы ішлі з Дома літаратара з Янкам Брылём. Сустрэлі рэдактара «Нёмана» Анатоля Паўлавіча Кудраўца. Іван Антонавіч пацікавіўся, што значнае ёсць у рэдакцыйным партфелі і раптам успомніў пра дзённік Мікуліча. «Якраз пара яго надрукаваць»,— параіў Янка Брыль. Я сказаў, што тыя сто старонак ёсць.



Здымак 1951 года.

Назаўтра перадаў рэдактару слепаватыя старонкі даўняга машынапісу, сваю прадмову і каментарый. Бываючы часам у рэдакцыі, цікавіўся, як ідзе падрыхтоўка «Аповесці для сябе». Па невыразных адгаворках супрацоўнікаў, адчуваў, што — ніяк: барометр зноў хістаўся і паказваў нешта невыразнае. Аднойчы рэдактар шчыра сказаў, што без купюр дзённік надрукаваць не ўдасца. Няхай мяне прабачыць Анатоль Паўлавіч, што часта ямуназаляў і аднойчы параіў: «Каб было сумленне рэдакцыі чыстае, няхай купюры робіць Галоўліт».

Відаць, адданасць сапраўднай літаратуры і адвага рэдактара перамаглі сумненні. У сакавіцкім нумары «Нёмана» за 1987 год без жадных купюр (толькі, на вялікі жаль, прозвішча аднаго не надта прыстойнага чалавека было пазначана ініцыялам) з'явілася «Аповесць для сябе». Яе ў першую чаргу заўважылі ў Маскве. З'явіліся вельмі станоўчыя водгукі ў «Московских новостях», «Литературной газете», «Дружбе народов», «Знамени». А «Нёман» заваяваў прыхільнасць і пабольшыў тыраж за межамі рэспублікі.

Я быў упэўнены, што неўзабаве ў «Нёмане» з'явіцца працяг «Аповесці для сябе». Час ішоў, а другой часткі не было. Як я адразу не здагадаўся, што рэдактар і не ведае пра яе існаванне, расказаў Анатолю Паўлавічу, што арыгінал другі раз арыштаваны Камітэтам дзяржбяспекі. Лагічна было б рэдакцыі папрасіць выдаць дзённік для далейшай публікацыі. Давялося зноў сястры Мікуліча звяртацца з просьбаю да старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Максіма Танка, каб і на гэты раз дапамог вызваліць рукапіс брата.

Я папрасіў тагачаснага аргсакратара В. А. Скварцова пра любы сігнал з камітэта адразу паведаміць мне. Відаць, у гэтым высокім органе сапраўды змянілася атмасфера і прыйшлі новыя разумныя людзі. Даволі хутка работнік КДБ даставіў рукапіс у Саюз пісьменнікаў, а я ў той жа дзень аднёс яго ў рэдакцыю. Яшчэ больш выцвілі старонкі і пашарпалася самаробная вокладка. Другая частка напісана па-беларуску. Перакладаць узяўся перакладчык высокай кваліфікацыі Уладзімір Жыжэнка. Пры сустрэчах я яго прыспешваў каламбурам: «Куй жалеза пакуль Гарбачоў».

Нарэшце заканчэнне «Аповесці для сябе» выйшла ў снежаньскім нумары «Нёмана» за 1988 год. Ад першай спробы апублікаваць яе прайшло 18 гадоў. Хоць і з перапынкам публікацыя стала сумленным, шчымлівым і хвалюючым дакументам трагедыі нашага народа і літаратуры. Цяпер рукапіс дзённіка захоўваецца ў Архіве-музеі літаратуры і мастацтва, а асобнаю кніжкаю тры гады ніяк не можа выйсці.

Пасля першай сустрэчы з маёрам Гаралёвым (цяпер ужо, напэўна, палкоўнікам), на вялікі жаль, больш ні разу не сустрэўся. Гэта яму наша літаратура і чытачы, светлая памяць Мікуліча абавязаны адкрыццём спавядальнай «Аповесці для сябе».

Яна заканчваецца зваротам Барыса Мікуліча да ўсіх нас: «Нарэшце стаўлю кропку. «Аповесць для сябе»? Не! Я хачу, каб гэты канспект аповесці быў дзеля ўсіх, каб яны любілі і цанілі жыццё і каб не расставаліся з мараю». Гучыць як запавет улюбёнага ў жыццё летуценніка.

Барыс Мікуліч нідзе і ніколі не расставаўся з мараю, з натхнёным мастацтвам. У лагеры і ў ссылцы ставіў спектаклі, быў акцёрам і рэжысёрам, каб прынесці людзям хоць кароткую радасць і забыццё пра пакуты, тоячыся пісаў вершы і прозу, перахоўваў іх у добрых спагадлівых людзей. Усе Барысавы рукапісы ў Машукоўцы зберагла яго кватэрная гаспадыня Марыя Смелякова. Напісаныя ў выгнанні творы папоўнілі пасмяротныя выданні яго кніг, а некалькі аповесцей усё яшчэ чакаюць публікацыі. Да 80-годдзя пісьменніка меркаваўся трохтомнік яго твораў, але нават не трапіў у выдавецкі план. Што зробіш, калі «цесна» жывым! Кнігі Мікуліча, як і папярэднія выданні, знайшлі б свайго чытача, узбагацілі б і ўпрыгожылі нашу літаратуру.

Каб не жахлівы крывавы рэжым, каб не планавае вынішчэнне лепшых людзей у 30 і 50 гады, Барыс Мікуліч пры сваёй творчай апантанасці і працавітасці напісаў бы не адзін том таленавітай прозы, мог бы разам з намі 19 жніўня адсвяткаваць свой юбілей.

Для тых, хто ведаў яго, хто чытаў і чытае яго творы, ён назаўсёды таленавіты, шчыры, інтэлігентны і адукаваны мастак, абаяльны і прыгожы чалавек.

Мне часта з суровай і завейнай сібірскай далечы чуецца пранікнёны голас Барыса Мікуліча. Там над крышталёвым саркафагам у вечнай мерзлаце — яго адзінокая магіла і жыве добрая памяць удзячных яму людзей.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

# АДКРЫТАЯ КНІГА РАСЛІН

## Падарожжа ў свет зёлак і красак

СПРАДВЕЧНА жыццядзейнасць чалавецтва непарыўна звязана з навакольнай прыродай. З даўніх часоў чалавек адкрываў, вывучаў і выкарыстоўваў яе таямнічыя багацці. Спасцігаючы ўласцівасці разнастайных раслін, нашы далёкія продкі навучыліся не толькі пераўтвараць дзікарослыя травы ў культурныя хлебныя злакі, але і ўмелі істотна адрозніваць іх па якасці. Дасканала валодаючы роднай мовай, чалавек даваў найменні родным мясцінам і краявідам, усяму таму, што спадарожнічала яму на працягу ўсяго жыцця. І, відавочна, само жыццё падказала яму назву той культуры, якая мае першараднае значэнне: жыццё — жыць — жыта.

Праходзяць стагоддзі, а шматлікі і чароўны свет раслін для кожнага новага пакалення людзей па-ранейшаму застаецца адкрытаю кнігаю, таямнічыя багацці якой чалавек спасцігае ўсё жыццё.

Прыгледзімся ж да родных краявідаў, дзе настойліва запрашаюць пад свае шаты лясы і дубровы, зманлівым шэптам вабяць мурожныя лугі, спакусліва клічуць сады, агароды і ягаднікі, прывабна ўсміхаюцца непаўторнай прыгажосцю кветнікі. Магутны шматвяковы дуб і эфемерная рэзухавідка, гнуткі арэшнік і недачэпа бальзаміна, далікатная вяргіня і непатрабавальны крываўнік, мудрагелістая грыфала і сціплая лілея — усе яны ствараюць той своеасаблівы каларытны пейзаж, які рознакаляровымі адценнямі фарбаў мякка ўліваецца ў вочы, напаўняе пяшчотай сэрца, хвалюе і не перастае здзіўляць чалавека.

Здаецца, што само неба ўвабралі ў сябе і драбнюткія незабудкі на ўскраіне лясной паляны, і сінявокія васількі ўздоўж жытнёвага поля, і вытанчаная лабелія, што цягнецца са дна празрыстага возера нябесна-блакітнымі кветкамі, і стройныя рагулькі ў агародчыку пад хатай.

Белымі воблачкамі на хвалістай паверхні вадаёмаў плывуць гарлачыкі, сярод лугавых траў ціха пагойдваюцца купкі рамонкаў. Да іх туляцца пышлівыя званочкі, а побач у адзіноце жаўцеюць ільвіны зеў і зверабой. Урачыста пунсавеюць ружы і шалфей, льюць сонечнае цяпло наготкі і эшольцыя, какетліва хіліцца долу ярка-чырвоная дзіклітра, да ружавата-белай касмеі нясмела хінуцца цыбатыя бяссмертнікі, ганарліва красуецца атласна-ружовая гадэцыя, сарамяжліва хаваецца ад сонца пабляклая мацыёла, а сярод аранжава-жоўтых пялёсткаў вялікім карым вокам цікаўна паглядае навокал гайлардыя...

Палявыя і лугавыя, лясныя і дэкаратыўныя кветкі — гэта да іх, як да цуду, з аднолькавым захапленнем цягнецца дзіцячая рука і горнецца сэрца дарослага чалавека. Светлая радасць спасціжэння прыгажосці, якую дорыць прырода, уласціва чалавеку да глыбокай старасці.

Аднак ці знаёмы мы з царствам раслін вакол нас? Ці ведаем беларускія назвы навакольнай флоры?

Вядома, што ў прыродзе няма ніводнай безыменнай расліны. Хутчэй наадварот, многія з іх маюць па некалькі назваў як шырокараспаўсюджаных, так і мясцовых.

Напрыклад, кураслеп вядомы яшчэ ў народзе як **анемона** і **ветраніца;** гарыцвет як **адоніс** і **светнік;** дурніцы як **буякі** і **галубіцы;** ворлік як **вадазбор** і **аквілегія;** рагулькі як **шпорнік** і **дэльфініюм;** бяссмертнік як **сухацвет** і **імартэль;** першацвет як **прымула** і **ключыкі.**

Шэрагу раслін у беларускай мове ўласціва два найменні: **адуванчык — дзьмухавец; падарожнік — трыпутнік; зверабой — святаяннік; казялец—люцік; гарыца — дзярнінка; аер — плюшнік; васілёк — валошка; чыстацел — падтыннік; рудзянец — барадоўнік; балотнік — вадзяная зарачка; календула — наготкі; стакротка — маргарытка; ляўконія — мацыёла.**

Можна толькі ганарыцца лексічнымі здабыткамі роднай мовы, якую мы атрымалі ў спадчыну ад далёкіх прадзедаў, ад дзядоў і бацькоў нашых.

Назвы-сінонімы, утвораныя народам на падставе жыццёвага вопыту і штодзённых назіранняў за жывой прыродай, не толькі падкрэсліваюць спецыфічныя асаблівасці той ці іншай расліны, але і значна ўзбагачаюць слоўнікавы арсенал роднай мовы. Найменні беларускай флоры—неад'емная частка нашага лексічнага багацця.

Тым не менш, нельга сцвярджаць, што мы шаноўна адносімся да нашай лексічнай спадчыны, зберагаючы і прымнажаючы яе здабыткі. Як нельга сцвярджаць і тое, што мы добра знаёмыя з нашай флорай і ведаем як усё «гэта» завецца.

Бясспрэчна, што запоўніць прабелы ў ведах можна пры дапамозе даведнікаў. Аднак гэта зрабіць не вельмі проста, бо энцыклапедычная і даведніцкая літаратура аб флоры роднага краю (і не толькі па гэтай тэматыцы) нашымі выдавецтвамі выпускаецца, як правіла, на рускай мове. У такім выпадку, каб даведацца як «гэта» будзе па-беларуску, мы звяртаемся да нашых слоўнікаў. Але і там задаволіць сваю цікавасць удаецца не заўсёды.



Фота Аляксея МАЦЮША.

На жаль, з вышэйназванай флоры шэраг найменняў «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» астаўлены па-за ўвагай. Гэта — **рэзухавідка, грыфала, лабелія, касмея, гадэцыя, гайлардыя, дзіклітра, эшольцыя.** Між іншым, лабеліі ў нас два віды. Адзін з іх — **лабелія эрынус** — вядомы як дэкаратыўная расліна, а другі — **лабелія Дортмана** — як ахоўная і занесена ў Чырвоную кнігу рэспублікі. Зазначу яшчэ, што дзіклітра і эшольцыя маюць найменні-сінонімы: першая вядома ў народзе як «разбітае сэрца», а другая як **«каліфарнійскі мак».**

Мне міжволі прыгадваецца далёкае дзяцінства, якое праходзіла ў невялічкім палескім гарадку, тым самым гарадку, дзе кветкаводамі станавіліся раней, чым бралі ў рукі буквар. Менавіта тады вучыла мяне маці не толькі распазнаваць і адрозніваць лекавыя расліны ад шкодных для чалавека, кволыя сцяблінкі ўзыходзячай гародніны і кветак ад пустазелля, але і знаёміла з найменнямі мясцовай флоры. Прычым, яна ведала іх як па-кніжнаму, так і па-нашаму, «по-городзецкі». Тыя назвы-сінонімы засталіся ў памяці да гэтага часу. Так, чырвоная парэчка па-нашаму завецца лісічкі; каляндра — кінза; сельдэрэй — сандзірушка; курынае проса — косцэрэва; рагулькі—стружка; амарант — лісі хвост; рудбекія вороні глаз; **касмея** — золота корона; партулак — коўрыкі; кларкія — грэчка; мальва — рожа: гадэцыя — курортнікі.

Але, пагартаўшы старонкі нашага слоўніка, з прыгаданых раслін там нельга знайсці **амаранта, рудбекію** і **кларкію.** Гэты спіс можна яшчэ дапоўніць **асцільбай, нямезіяй, сальпіглосісам, іберысам, мантбрэкіяй, клімацісам, кервелем, датурай, гацаніей, гамфрэнай** і інш.

Шэраг раслін, як знікаючы від, занесены ў Чырвоную кнігу нашай рэспублікі, але чамусьці іх найменні не зафіксаваны ў згаданым слоўніку. Гэта **венерын чаравічак, палушнік, ячменевалосец, валжанка, меч-трава, лінея, чубатка, рамоначнік, чараўнік, надбароднік, неатыянта, пальчатакарэннік, пылкагалоўнік, сверцыя, тайнік** і інш.

У народзе добра вядомы і расліны, якія маюць лекавыя ўласцівасці. Аднак **алтэй, жосцер, кацямятка, лаганец, пахучка, стальнік, фенхель, дымніца, цэтрарыя, аўран лекавы** і інш. таксама не ўведзены ў наш слоўнік.

Але хібы слоўніка не толькі ў гэтым. Пры больш-менш уважлівым знаёмстве з яго артыкуламі можна заўважыць шэраг недарэчнасцей, якія тычацца суаднясення некаторых раслін да таго ці іншага сямейства.

Напрыклад, расліна **блошчык** у слоўніку аднесена да сямейства губакветных. Сінонімам да яе даецца слова **расходнік.** У сваю чаргу расходнік, ці інакш кажучы **зайцава капуста,** памечаны як расліна сямейства таўсцянковых. У той жа час зайцава капуста «тое, што і кісліца», а кісліца пададзена як расліна сямейства кіслічных. Цікава, да якога ж сямейства адносяцца прыгаданыя расліны?

Паглядзім далей. Да сямейства варсянковых адносяцца **варсянка, сівец** і **паўночнік,** тады чаму сівец пераскочыў у сямейства злакаў?

Расліна **багатка,** як сцвярджае слоўнік, «тое, што і малачай, дзьмухавец». Але не трэба быць вялікім знаўцам батанікі, каб не ведаць таго, што малачай і дзьмухавец маюць істотнае адрозненне і ні ў якім разе адзін з іх не можа быць тое, што і багатка. **Малачай** адносіцца да сямейства малачаевых, а **дзьмухавец** (ён жа адуванчык) да сямейства складанакветных.

**Ляшчына,** яна ж і **арэшына,** у адным выпадку аднесена да сямейства арэхавых, а ў другім да бярозавых. Гэткая ж недарэчнасць і ў вызначэнні сямейства, да якога адносіцца граб. Незразумела, да якога сямейства адносіцца дрэва, ці да бярозавых, ці да ляшчынавых.

Руска-беларускі слоўнік лексему «бурачниковые» ў перакладзе на родную мову падае як агурочнікавыя. Складальнікамі «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» гэты пераклад не прызнаецца і фіксуецца слова бурачнікавыя, да сямейства якога адносяцца **незабудкі, медуніцы, геліятроп і агурочная трава.** Аднак геліятроп памячаецца як расліна сямейства агурочнікавых. Між іншым, сама расліна **агурочнікавая трава** ў слоўнік не ўведзена.

І зноў жа. Паводле «Руска-беларускага слоўніка» «гречишные» — гэта драсёнавыя. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» такі пераклад не ўспрымае. Драсён, грэчка і рэвень падаюцца як расліны сямейства грэчкавых. І ў той жа час шчаўе памечана як расліна сямейства драсёнавых.

Шэраг слоў, якімі вызначаецца сямейства раслін, слоўнікам наогул не фіксуецца. Напрыклад, апушчаны лексемы бярозкавыя (да гэтага сямейства адносяцца бярозка, павой, іпамея), ароідныя (аер, капытнік, філадэндран), кутравыя (алеандр, барвенак), чайныя (камелія), брусні́чныя (брусніцы, чарніцы, буякі), дзеразовыя (дзераза), трыпутнікавыя (трыпутнік) і інш.

Пералік падобных недакладнасцей, якія сустракаюцца ў слоўніку, можна было б працягваць. Аднак, гэтыя радкі пішуцца не для таго, каб смакаваць хібы і недахопы лексікаграфічнай крыніцы, а каб звярнуць увагу беларускіх мовазнаўцаў і лексіколагаў на неабходнасць удасканалення нашага пяцітомнага слоўніка, бо ў такім стане ён не можа нас задаволіць. Яшчэ ў 1988 годзе аўтарам гэтых нататак была зроблена спроба выказаць свае думкі наконт ідэальнага слоўніка роднай мовы. Тады падобнае меркаванне грунтавалася на лексіцы, звязанай з рыбалоўствам. На гэты раз у аснову разважанняў пакладзены іншы лексічны пласт. Але бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што калі не прытрымлівацца рамак пэўнай тэматыкі, а проста ўважліва пазнаёміцца са слоўнікавымі артыкуламі, то недакладнасцей можна заўважыць значна больш.

Распачаць працу над складаннем удасканаленага слоўніка роднай мовы патрабуе і сам час. Пасля абвяшчэння нашай мовы мовай дзяржаўнай гэта набывае першаступеннае значэнне.

**Т. СТАХЕЙКА,**
**філолаг.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 13.08.92 у 18.10.**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**





**Індэкс 63856**
**Тыраж 18068**

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**